У кніжцы В. Грыцкевіча «Нашы славутыя землякі» сабраны нарысы пра беларусаў-падарожнікаў, якія ўнеслі значны уклад у развіццё сусветнай і айчыннай навукі і культуры.

*«Нашы славутыя землякі»,— з гордасцю гаворым мы пра выдатных вучоных Ігната Дамейку і Івана Чэрскага, урача Мікалая Судзілоўскага, консула Восіпа Гашкевіча, палярнага даследчыка Андрэя Вількіцкага, пра многіх іншых беларусаў, якія ўнеслі значны уклад у развіццё сусветнай і айчыннай навукі і культуры, змагаліся за свабоду свайго народа.*

*Пры царызме, калі наш край знаходзіўся над сацыяльным і нацыянальным прыгнётам, аб беларускім народзе было ўяўленне як аб людзях забітых і недалёкіх, абмежаваных духоўна і нават разумова. У такім жа святле буржуазныя ідэолагі спрабуюць прадставіць нас свету і сёння. Але багатая гісторыя і дасягненні сучаснай Савецкай Беларусі сведчаць зусім пра іншае.*

*Так, змрочным было дарэвалюцыйнае мінулае беларускага народа. Але ніколі не быў ён пакорлівым і бяздзейным. У яго асяроддзі нараджаліся героі і змагары, якія вялі барацьбу за волю і шчасце прыгнечаных. Царскі ўрад распраўляўся з непакорнымі. І ўсё ж куды б ні закідваў бязлітасны лёс нашых землякоў — на халодную Поўнач, у Сібір, на Камчатку ці ў гарачыя стэпы Прыкаспія, Казахстана, Туркмена,— яны не здаваліся, упарта працавалі, рабілі навуковыя адкрыцці, вывучалі жыццё, мову, культуру тых народаў, сярод якіх даводзілася жыць, уносілі свой уклад у іх развіццё. Беларусы*

*пакінулі свой след у Чылі, Злучаных Штатах Амерыкі, Японіі, Кітаі, Егіпце, Турцыі і многіх іншых краінах свету. Таму, дзе б яны ні жылі, яны прыносілі карысць, змагаліся і працавалі дзеля шчасця іншых, неслі ў чужыя краіны асвету і ідэі міру.*

*У кніжцы Валянціна Грыцкевіча сабраны біяграфіі толькі нямногіх беларусаў, але і яны сведчаць аб тым, які таленавіты і шчодры наш народ.*

## УЗДОЎЖ КУРЫЛЬСКАЙ ГРАДЫ

Выхадцы з Беларусі і Літвы яшчэ ў часы праўлення Пятра І унеслі вялікі уклад у даследаванне Курыл і Камчаткі. Сярод іх былі геадэзісты Іван Яўрэінаў і Фёдар Лужын. Вучыліся яны ў Маскоўскай матэматыка-навігацыйнай (мараходнай школе) і Пецярбургскай марской акадэміі.

Паходжанне Івана Яўрэінава, як указана ў адным з дакументаў гэтых навучальных устаноў, «з людзей баярскіх». Мянушкі і прозвішчы ў прывілеяваных слаёў тагачаснага грамадства звычайна звязваюцца з пэўнымі мясцовасцямі. Так, людзі з прозвішчам «Яўрэінаў» у другой палавіне XVII стагоддзя, як правіла, паходзілі з беларускіх гарадоў. Сярод іх найбольш вядомы ўраджэнец горада Мсціслаўя «першастацейны» купец у Маскве (а пазней у Пецярбургу) Мацвей Яўрэінаў. Ён паклаў пачатак вядомаму потым дваранскаму роду. Сын Мацвея Якаў быў дыпламатычным прадстаўнікам Расіі ў Іспаніі і Нідэрландах, а пазней прэзідэнтам камерц-калегіі (правобраза пазнейшага міністэрства гандлю).

Чаму Пётр І паслаў геадэзістаў на далёкі акіян? Цара зацікавілі паведамленні камчацкага казака І. Казырэўскага (дарэчы, унука беларускага шляхціца, які трапіў у палон, а потым на царскую службу ў Якуцію) пра Курыльскія астравы. Ён даручыў «навігатарам» (як тады на-

зывалі мараходаў) «ехаць да Камчаткі і далей, куды вам указана. І апісаць тыя мясціны, дзе сышлася Амерыка з Азіяй, што належыць старанна зрабіць не толькі сюйд (поўдзень) і норд (поўнач), але і ост (усход) і вест (захад), і ўсё на карту спраўна паставіць». Пётр І уласнаручна выправіў рукапіс інструкцыіі пасля слоў: «і апісаць тамашнія мясціны (...)». Савецкі гісторык А. Яфімаў пераканаўча даказаў, што цар хацеў замаскіраваць сапраўдную задачу Яўрэінава і Лужына.

На самай справе маршрут экспедыцыі быў вызначаны толькі да Камчаткі. А затым? У інструкцыі было толькі запісана: «і далей, куды вам указана».

Значыць, цар вусна даручыў навігатарам выконваць сакрэтнае заданне — следаваць на Курылы.

Пётр І не выпадкова накіроўваў у экспедыцыю падрыхтаваных у айчынных навучальных установах геадэзістаў. Чарцяжы тых месцаў, у якія хадзілі служылыя людзі, у тым ліку і Казырэўскі, былі ўчарашнім днём картаграфіі. Нягледзячы на тое, што яны выконваліся старанна, на чарцяжах, як правіла, не было матэматычнай асновы і маштабу. Ці маглі чарцяжы задаволіць патрабаванні эпохі?

У дакладных картах мелі патрэбу рэфармiраваная армія і флот, якія толькі нараджаўся, растучая гаспадарка і гандаль, дарожнае будаўніцтва і правядзенне межаў з суседнімі дзяржавамі. Вось чаму экспедыцыю на Ціхі акіян узначальвалі маладыя зоркія геадэзісты Яўрэінаў і Лужын.

З Пецярбурга геадэзісты выехалі ў студзені 1720 года. Доўгі шлях цераз усю еўрапейскую частку краіны і Сібір працягваўся паўтара года. К лету 1721 года экспедыцыя прыбыла ў Ахоцкі Астрог.

Восенню 1721 года Яўрэінаў і Лужын разам з камандай драгун адправіліся на лодцы «Ахвота» па моры. Вёў судна мараход Кандрацій Машкоў. Праз дзевяць дзён лодка даставіла экспедыцыю на заходні бераг Камчаткі. Разам з навігатарамі туды прыбыў новы прыказчык Камчаткі Аляксей Шастакоў, які па моры накіроўваўся далей у Ніжні Астрог. Геадэзісты ж выбралі сухапутную дарогу, пераваліліі цераз горы і дасягнулі Ніжняга Астрога па даліне ракі Камчаткі. Тут яны даведаліся, што прыказчык Шастакоў, як і яго падарожнікі, прымушаў мясцовых жыхароў аддаваць пушніну звыш належнага ясака і падмяняў сабранае для казны добрае футра сваім дрэнным.

Яўрэінаў і Лужын патрабавалі ад прыказчыка спыніць беззаконнасць, але Шастакоў не падпарадкаваўся ім. Мясцовыя жыхары ўсё часцей звярталіся за дапамогай да геадэзістаў.

Усю зіму Яўрэінаў і Лужын займаліся зборам звестак пра камчацкія рэкі і азёры. Вясной

геадэзісты вярнуліся на заходняе ўзбярэжжа і адправіліся на «Ахвоце» на поўдзень, на Курыльскую граду. Яны накіроўваліся да вострава Шакокі (Райкоке). Казырэўскі ў свой час дакладваў, быццам бы на ім «каменне капаюць у зямлі (...), а якое каменне — «таго талмачы камчадальскай мовай перакласці не ведаюць». І хоць звесткі Казырэўскага былі няяснымі, але яны і былі адным з галоўных матываў плавання Яўрэінава і Лужына.

Справа ў тым, што ў 1643 годзе нідэрландскія караблі дэ Фрыза і Схепа, адправіўшыся з вострава Ява ў пошуках міфічных залатых і сярэбраных астравоў на паўночны ўсход ад Японіі, сапраўды дасягнулі некалькіх паўднёвых Курыльскіх астравоў. Пры гэтым нідэрландцы толкам не абследавалі гэтыя астравы. Хакайда, Сахалін і курыльскі востраў Кунашыр палічылі за адзін востраў, а на ўсход ад курыльскага вострава Ітуруп «выявілі» ні мала ні многа — Амерыку!

Капітаны дэ Фрыз і Схеп унеслі блытаніну ў геаграфію гэтай часткі Ціхага акіяна. Мала таго, дэ Фрыз быццам бы выявіў на «Зямлі Кампаніі» (як ён называў курыльскі востраў Уруп) міфічны серабрысты пясок, які быццам бы раствараўся ў вадзе.

Яўрэінаў і Лужын абверглі і выдумкі нідэрландскіх мараплаўцаў, і памылковыя звесткі Казырэўскага аб востраве Райкоке.

Каля дзевятага па ліку ад Камчаткі вострава Шымушыр лодка стала на якар. Але шторм парваў ветразі. Якарны канат лопнуў, і судна панесла ў адкрытае мора. Цэлы тыдзень лодку насіла па раз'юшанаму мору. Вецер аднёс «Ахвоту» да другога вострава грады Парамушыру. Тут удалося папоўніць харчовыя запасы і адрамантаваць ветразь. Але калі сталі падымаць звязаныя гармату і кавадла, што замянілі згублены якар, канат зноў трэснуў.

На шчасце, удалося абысціся без якара і дабрацца да вусця Вялікай ракі на Камчатцы. Тут Машкоў зрабіў два драўляныя якары і акаваў іх скавародамі. У ліпені 1721 года лодка адправілася ў Ахоцк. З сабой падарожнікі захапілі і Шастакова, якога Яўрэінаў зняў з пасады за хабарніцтва і грабеж казны.

Праз цяжкапраходныя хрыбты Ахоцкага ўзбярэжжа, па рэках Якуціі геадэзісты даехалі да Якуцка, адсюль праз усю Сібір дабраліся да Табольска; там застаўся Лужын. Яўрэінаў жа рушыў у Казань, дзе ў той час знаходзіўся Пётр І. Імператар выслухаў справаздачу Яўрэінава і разгледзеў карту яго паходаў. Геадэзісты вылічылі адлегласць паміж прыкметнымі мясцінамі і ўпершыню вызначылі іх каардынаты. Карта мае градусную сетку. На яе нанесены чатырнаццаць астравоў.

Даныя навігатараў абвяргалі меркаванні еўрапейскіх географаў аб уяўнай блізкасці Аме-

рыкі да Курыльскіх астравоў. Карта і справаздача Яўрэінава знаменавалі сабой пераход ад прымітыўнай у матэматычных адносінах картаграфіі да новых, дакладных карт.

Яўрэінаў перадаў таксама Пятру І запіску «Аб камчацкім абыходжанні», у якой заступаўся за мясцовых жыхароў, якіх «крыўдзілі» прыказчыкі. Калі тыя не будуць грабіць іцельменаў (камчадалаў), указваў навігатар, «то вашай імператарскай вялікасці будзе вялікі прыбытак, што той акладны ясак тыя ясашныя людзі будуць старанна плаціць у казну больш за аклад у два разы». Запіска прасякнута духам гуманных адносін да жыхароў Камчаткі.

Экспедыцыі Казырэўскага і Яўрэінава замацоўвалі за Расіяй Курыльскія астравы. Справу гэтых падарожнікаў на паўночным усходзе краіны прадоўжваў Дзмітрый Паўлуцкі, род якога паходзіў з Вялікага княства Літоўскага.

## ТАШКАРАГАН ШУКАЕ ЗОЛАТА

Восеньскім вечарам 1834 года ў адным з аулаў у Тургайскім стэпе ў юрце вядомага казахскага песняра Жусупа сядзеў госць — геолаг з Арэнбурга. Пасля вячэры Жусуп вітаў госця песняй: «Дзіва нечуванае з'явілася ў нашых стэпах! Ташкараган шукае ў камені золата. Як не ўсхваляць такой стараннасці, такога майстэрства. Ташкараган знаходзіць золата, пра якое нават нашы продкі не ведалі».

«Ташкараганам» — «шукальнікам камянёў» пясняр назваў Томаша Зана, які нарадзіўся ў сям'і беднага шпяхціца ў карчме Мясата паблізу ад мястэчка Вілейка (цяпер Мінскай вобласці) 12 снежня 1796 года. Пасля вучобы ў Маладзечанскай і Мінскай гімназіях ён паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта, які пасля выгнання з яго ў 1773 годзе езуітаў стаў ва Усходняй Еўропе буйным цэнтрам навуковай і грамадскай думкі. Вільня была культурным і эканамічным цэнтрам Літвы і Беларусі. Універсітэт славіўся сваёй перадавой прафесурай.

Сярод студэнтаў распаўсюджваліся ідэі народна-вызваленчага руху і Французскай рэвалюцыі. Моладзь з цікавасцю сачыла за развіццём рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху ў краінах Заходняй Еўропы. Дэмакратызацыі універсітэта садзейнічала ўзмацненне класавых супярэчнасцей, рост нацыянальна-вызваленчага руху на літоўска-беларускіх землях, нарастанне крызісу прыгонніцкай сістэмы. Універсітэт, як магніт, прыцягваў да сябе моладзь з Літвы, Беларусі і Украіны. Ён даваў юнакам неабходныя веды і прагрэсіўны светапогляд.

Вакол Т. Зана і яго блізкіх сяброў сталі аб'ядноўвацца незадаволеныя існуючымі парадкамі маладыя людзі.

Томаш Зан і яго сябры — Ян Чачот, Адам Міцкевіч і іншыя — арганізавалі тайнае таварыства філаматаў (аматараў навук). Гэта супала па часе з фарміраваннем першых дзекабрысцкіх арганізацый у Расіі. І ў філаматаў, і ў дзекабрыстаў былі ў многім падобныя мэты.

Вакол невялікага тайнага таварыства філаматаў аб'ядноўвалася некалькі легальных і паўлегальных студэнцкіх гурткоў — «прамяністых», «філарэтаў», «філадэльфаў» і інш. Філаматы наладжвалі сходы, на якіх выступалі з прамовамі, накіраванымі супраць царызму.

Члены віленскіх гурткоў разумелі, што памагчы народу можна, толькі ведаючы гісторыю і культуру. Яны вывучалі па спецыяльнай праграме літоўскі і беларускі фальклор, быт народа, нават харчаванне. Паводле слоў Зана, «студэнты ахвотна карысталіся сялянскай простанароднай мовай»,.г. зн. добра вядомымі ім з дзяцінства літоўскай і беларускай мовамі, спявалі народныя песні, давалі адзін аднаму беларускія імёны.

Сярод філаматаў развіваліся ідэі сяброўскіх адносін да іншых народаў. Пад старасць, пасля доўгіх ссылак, Т. Зан перасцерагаў моладзь ад пачуцця нацыянальнай варожасці: «Не трэба толькі ніякай нянавісці. Наш вораг — рускі ўрад, а сумленныя рускія нават гатовы памагчы нам адваяваць сваю незалежнасць. Рускія не менш за нас пакутуюць ад дэспатызму!»

Царскія ўлады раскрылі дзейнасць тайных таварыстваў і пачалі следства па іх справе. Першым у спісу падследных значыцца Т. Зан, які ўзяў на сябе ўсю «віну» кіраўніцтва таварыствамі і тым самым выратаваў іх членаў ад катаргі.

Т. Зан сумеў скрыць ад улад палітычную падаплёку таварыстваў і прыняў на сябе ўвесь цяжар абвінавачання. Ён праявіў сябе ў справе філаматаў настолькі тонкім канспіратарам, што да нас не дайшлі дакументы, якія маглі б праліць святло на многія бакі дзейнасці віленскіх гурткоў. Дакументы гэтыя былі знішчаны ці самім Т. Занам, ці па яго загаду.

6 жніўня 1826 года Т. Зан запісаў у дзённіку: «Сюды прывезлі, як салдат (дзекабрыстаў), Бястужава, Ведзяняпіна, Кажэўнікава...»

Т. Зану ўдалося ўстанавіць сувязі з тайным Арэнбургскім таварыствам. Правакатар Іпаліт Заваліпын пранік у таварыства і выдаў яго членаў. Улады саслалі ў Сібір на катаргу ўдзельнікаў таварыства. Т. Зан пісаў у дзённіку 27-28 красавіка 1827 года: «Заваліпын, падрыхтаваўшы юнкераў, уцягнуў іх у змову супраць урада і, заручыўшыся іх пісьмовай прысягай, данёс губернатару. Семярых вінаватых (сапраўды ж восем — В. Г.) пасадзілі. У аднаго з іх мой Красіцкі».

У аднаго з асуджаных — В. Калеснікава, як той успамінаў пазней, па дарозе ў Сібір, ва Уфе, 10 кастрычніка 1827 года адабралі «творы

Міцкевіча, Красіцкага і Нямцэвіча». Гэтыя кнігі, у тым ліку і твор польскага паэта І. Красіцкага «Пра вершапісанне і вершатворцаў» (які да гэтага неаднаразова ў дзённіку ўспамінаў Т. Зан), Калеснікаву мог перадаць толькі Зан.

Т. Зан зблізіўся з жыўшымі ў Арэнбургу даследчыкам Прыкаспійскага ўзбярэжжа Г. Карэліным, аўтарам раманса «Салавей» А. Аляб'евым, складальнікам «Тлумачальнага слоўніка вялікарускай мовы» пісьменнікам У. Далем.

Т. Зан пастаянна звяртаў увагу на становішча прыгнечаных народных мае. У 1832 годзе ён пісаў свайму сябру К. Хадкевічу, што майстры-малахітчыкі на Урале вымушаны былі тайком ад начальства шліфаваць пячаткі і іншыя вырабы, каб гэтым выратавацца ад галечы. Праз два гады ён пабываў у паўднёвай частцы Башкірыі і пісаў, што «ў час паездкі ў гарах пачалася блытаніна з-за неразумення пастаноў аб сялянскіх магазінах (складах зерня — В. Г.). Башкіры вырашылі, што для іх хочуць будаваць цэрквы, а дзяржаўныя еяляне — што іх зробяць прыгоннымі. Увесь Златауст перапалохаўся і тры дні быў у гатоўнасці да абароны. Добраахвотная пуга неўзабаве навяла парадак. Генерал Цыялкоўскі пакараў трыццаць тысяч «вінаватых».

Пісьмы Т. Зана прагляданіся паліцыяй, таму ён не мог даць больш шырокую ацэнку падзеям, але не прамінуў іранічна ахарактарызаваць «добраахвотнасць» царскай пугі.

Т. Зан зрабіў некалькі геалагічных экспедыцый па Паволжу, Прыураллю і Паўночнаму Казахстану, склаў шэраг геалагічных карт і апісанне Прыуралля.

Пры мясцовым ваенным вучылішчы Т. Зан арганізаваў прыродазнаўчы музей, шукаў для яго экспанаты ў час сваіх паездак.

Для арэнбургскага музея Т. Зан збіраў народныя касцюмы казахаў, башкіраў, татараў. Е. Вароніна, якая наведала музей у верасні 1833 года, гаварыла пра яго экспанаты: «Па баках стаяць лялькі ў рост чалавечы ў розным, вельмі багатым азіяцкім адзенні, па чатыры з кожнага боку. У адным радзе мардоўка, калмычка, кіргізка (казашка — В. Г.) і ўралка ў сукенках замужніх жанчын; у другім — дзве дзяўчыны, уралка і кіргізка, калмык у казацкім мундзіры і сібірскі шаман. Навокал развешаны кальчугі, сёдлы, чапракі і рознае адзенне».

Т. Зан планаваў напісаць серыю раманаў пра жыццё Прыуралля ў часы паўстання Е. Пугачова і запісваў башкірскія і татарскія песні.

Пра паэтычныя здольнасці казахаў Т. Зан пісаў сваячцы Марыі Путкамер: «Кіргізскія мужчыны і жанчыны здольны імправізаваць думкі простыя, але праўдзівыя і займальныя».

Пятнаццаць гадоў правёў Т. Зан у Прыураллі. Затым яму дазволілі пераехаць у Пецяр-

бург. Тут яму не ўдалося дабіцца выдання геалагічнага апісання поўначы Казахстана. Кніга, паводле слоў Т. Зана, была плёнам яго «сямігадовых паездак, назіранняў і ўяўленняў пра горы Уральскія і ўсю тамашнюю прыроду». Аб'ём кнігі ў трох тамах складаў да ста друкаваных аркушаў, дадаткам была геагнастычная карта. А шкада: Т. Зан апярэдзіў сваімі даследаваннямі аўтараў першых выдадзеных у 1840-1850 гадах геалагічных работ аб будове Уральскіх гор.

Праз два гады Т. Зану дазволілі вярнуцца ў родныя мясціны. Памёр ён у маёнтку Кахачын Сенненскага павета Віцебскай губерні ў 1855 годзе.

У суровых умовах ссылкі Томаш Зан знайшоў у сабе сілы, каб зацікавіцца бытам і паэзіяй народаў Прыуралля і шукаць карысныя выкапні ў далёкіх стэпах і гарах.

## ПАДЗЯКА СУЧАСНІКАЎ І НАШЧАДКАЎ

Адначасова з Т. Занам на Урал саслалі і другога арганізатара маладзёжных гурткоў Літвы і Беларусі — Яна Чачота. Згодна з дакументам, выяўленым намі ў «Справе аб дваранстве Чачотаў» у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве СССР у Ленінградзе, ён нарадзіўся 17 ліпеня 1796 года ў засценку Малюшыцы Навагрудскага павета ў сям'і дробнага двараніна, які арандаваў чужыя маёнткі. Вучыўся ён у дамініканскай школе ў Навагрудку разам з будучым геніем літаратуры, таксама навагрудчанінам Адамам Міцкевічам, потым у 1815 годзе яны паступілі ў Віленскі універсітэт.

Гэта пра іх успамінаў у канцы жыцця іх зямляк Ігнат Дамейка: «Два нашы студэнты навагрудскай школы з малых гадоў добра ведалі наш літоўскі (беларускі — В. Г.) народ, палюбілі яго песні, пранікліся яго духам і паэзіяй... чаму, відаць, садзейнічала і тое, што невялікае мястэчка Навагрудак мала адрознівалася ад нашых вёсак і засценкаў. Школьнае жыццё было, па сутнасці, сельскім. Сябры хадзілі па кірмашах, бывалі на сялянскіх вяселлях, дажынках і пахаваннях. Яшчэ ў школе народная песня нарадзіла ў сяброў першае паэтычнае натхненне...»

Магутны ўздым грамадскай самасвядомасці ахапіў пасля падаўлення царскім самадзяржаўем паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі шырокія слаі насельніцтва Літвы і Беларусі. Культурным цэнтрам гэтых зямель быў Віленскі універсітэт, які называлі «паўночнымі Афінамі». Ідэі «веку Асветы» атрымлівалі дастатковы рэзананс з-за нарастания крызісу прыгонніцкіх адносін: узмацняліся класавыя супярэчнасці, расслайвалася дваранства, узмацнялася супраціўленне шавіністычнай палітыцы царызму.

Сярод віленскай моладзі ўзніклі тайныя таварыствы. На адным з іх пасяджэнняў Я. Чачот гаварыў: «Ні асвета краіны, ні земляробства не могуць рухацца такім крокам наперад, пакуль не будзе знішчана існаваўшая многія стагоддзі перашкода — няволя сялян, такая чужая натуральнаму праву, здароваму розуму, ... якая прыводзіць у сорам людскія сэрцы».

У 1823 годзе пачаліся павальныя арышты членаў таварыстваў, Царскі саноўнік Навасільцаў разграміў маладзёжны рух у Літве і Беларусі. Быў арыштаваны і Чачот. Саслалі яго ў Кізіл (сёння Кізільскае на крайнім поўдні цяперашняй Чэлябінскай вобласці), дзе ён правёў паўгода ў турме, а затым быў пераведзены ва Уфу. У шэрагу дакументаў фонду канцылярыі Арэнбургскага грамадзянскага губернатара за 1824-1830 гады, знойдзеных намі ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Башкірскай АССР ва Уфе, сустракаюцца звесткі аб знаходжанні Чачота ва Уфе пад наглядам паліцыі.

У «Ведамасці аб тых, хто значыцца пад наглядам паліцыі ў горадзе Уфе за майскую трэць сяго 1830 года» (з фонду канцылярыі Арэнбургскага грамадзянскага губернатара) ёсць запіс: «Студэнт Іван Фадзееў сын Чачот, перайменаваны ў канцылярыста мінулага 1828 года ліпеня з 14 дня... знаходзіцца на кватэры і працягвае служэнне ў канцылярыі пана Арэнбургскага грамадзянскага губернатара, займаецца пісьмаводствам і ад казны ўжо ўтрымання ніякага не мае, а атрымлівае адпаведна працы жалаванне».

Чачот збіраў этнаграфічныя і фальклорныя матэрыялы і ў ссылцы. Частку з іх ён перасылаў свайму сябру па універсітэту, віднаму мангалазнаўцу Восіпу Кавалеўскаму ў Казань, куды той выехаў вучыцца пасля разгрому віленскіх гуртkoў. На жаль, матэрыялы загінулі ў час разгрому варшаўскай кватэры Кавалеўскага казакамі ў 1863 годзе. Пра гэта з горыччу пісаў пад старасць Кавалеўскі ўсходазнаўцу В. Грыгор'еву ў пісьме, якое мы знайшлі ў Рукапісным аддзеле Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе: «І гэты стос пісем (Чачота), каля 200 аркушаў, у час разгрому маёй маёмасці ў Варшаве прапаў без вестак. Цяжка, цяжка пра гэта пісаць».

У 1831 годзе Чачот пераведзены з Уфы ў Цвер, праз два гады ў Лепель (цяпер Віцебскай вобласці) ва ўпраўленне інжынераў Бярэзінскага канала. Толькі ў 1841 годзе ён змог вярнуцца на родную Навагрудчыну, дзе спачатку жыў у вёсцы Далматоўшчына, а потым працаваў бібліятэкарам у багатай бібліятэцы графа Храптовіча ў маёнтку Шчорсы. У 1837-1846 гадах Чачот выдаў шэсць зборнікаў беларускіх народных песень у перакладзе на польскую мову (толькі ў апошнім зборніку песні пададзены ў арыгінальным беларускім гучанні). Чачот апублікаваў

больш тысячы песень. У мовазнаўстве Ян Чачот першым даў цікавыя навуковыя нарысы пра беларускую мову, называючы яе самастойным членам славянскай моўнай сям'і. Ён склаў невялікі тлумачальны слоўнік спецыфічнай беларускай лексікі, выказаў першыя справядлівыя думкі адносна будучага беларускага правапісу. Ён заклікаў даследчыкаў узяцца за складанне грунтоўных слоўніка і граматыкі беларускай мовы, лічачы, што «хто б узяўся за гэтую справу, заслужыў бы падзяку не толькі пакалення, якое цяпер жыве, але яшчэ большую ў будучыні».

Памёр Чачот 11 жніўня 1847 года ў Друскеніках (цяпер Друскінінкай Літоўскай ССР) у крайняй беднасці. Сябры пахавалі яго ў суседнім сяле Ротніца.

## СЯБАР КАБЗАРА ПА ССЫЛЦЫ

У гады ссылкі ў Тараса Шаўчэнкі не было лепшага сябра, чым Браніслаў Залескі. Як і Т. Шаўчэнка, ён быў мастаком і пісьменнікам. Разам яны рабілі замалёўкі пейзажаў Прыкаспія, з ім дзяліўся паэт сваім смуткам, з ім перапісваўся потым. Б. Залескі, вярнуўшыся з ссылкі, прадаваў карціны паэта, пасылаў яму пэндзлі і фарбы. Перапіска сяброў з'яўляецца каштоўнай крыніцай да вывучэння біяграфіі Т. Шаўчэнкі.

Звесткі пра Б. Залескага мізэрныя. Шаўчэназнаўца Л. Хінкулаў пісаў, што імя гэтага «асабліва блізкага Шаўчэнку ў ссылцы чалавека (...), не знайсці ні ў мнагатомных старых і новых рускіх энцыклапедыях, ні ў агульнадаступнай мемуарнай літаратуры».

Мы пачалі шукаць матэрыялы пра Б. Залескага ў айчынных архівах і замежных выданнях і паводле іх дадзеных змаглі аднавіць яго біяграфію.

Нарадзіўся Браніслаў Залескі ў небагатай дваранскай сям'і ў Беларусі, у мястэчку Вызна (цяпер пасёлак Чырвоная Слабада Мінскай вобласці), 9 чэрвеня 1820 года. Ён паступіў вучыцца ў Дэрпцкі {цяпер Тартускі) універсітэт. Тут уступіў у, проціўрадавую арганізацыю.

Улады разграмілі студэнцкі гурток. Б. Залескага трымалі пад арыштам у 1838-1841 гадах, а затым выслалі пад нагляд паліцыі ў Чарнігаў. Праз чатыры гады яму дазволілі вярнуцца ў родныя мясціны. Ён не адышоў ад падпольнай дзейнасці і быў зноў арыштаваны ў 1846 годзе. Б. Залескага паслалі служыць радавым у Арэнбургскі корпус. Праз два гады яго накіравалі ў Аральскую экспедыцыю як добрага малявальшчыка «ў дапамогу радавому Шаўчэнку для аддзелкі гідраграфічных відаў». Разам з Т. Шаўчэнкам Б. Залескі працаваў летам 1851 года ў экспедыцыі, якая шукала каменны вугаль на паўвостраве Мангышлак.

У 1853 годзе Б. Залескі ўдзельнічаў у паходзе царскіх войск на какандскую крэпасць Акмячэць (цяпер горад Кзыл-Арда). За храбрасць пры штурме Акмячэці Залескага зрабілі прапаршчыкам.

Пасля акмячэцкага паходу Б. Залескі атрымаў назначэнне на паўночны Урал на Багаслоўскі завод і Тур'інскія капальні. Толькі ў 1856 годзе Б. Залескаму дазволілі выйсці ў адстаўку і вярнуцца на радзіму. Там ён прыняў удзел у падрыхтоўцы рэформы па адмене прыгоннага права, затым выехаў за мяжу, каб назаўсёды застацца ў эміграцыі. У час паўстання 1863 года ён спрабаваў пераслаць суайчыннікам-паўстанцам зброю, але спроба аказалася няўдалай.

Б. Залескі гіасяліўся ў Парыжы, Тут ён рэдагаваў «Штргоднік» Гісторыка-літаратурнага таварыства эмігрантаў з Польшчы, Беларусі і Літвы, у якім змяшчаў артыкулы пра Казахстан. Памёр Б. Залескі ў 1880 годзе.

У альбоме пейзажаў Казахстана, выдадзеным нашым зелляком у Парыжы, БЫЛО змешчана многа гравюр. Гэта адно з першых адлюстраванняў прыроды Казахстана, даступных заходнееўрапейскім чытачам. Гравюры суправаджаліся тлумачэннямі аўтара.

Радкі, якія напісаў Б. Залескі пра казахаў, сагрэтыя цяплом сэрца гуманіста: «Казах з даўніх пакаленняў прывык да каня і зросся з ім, лічыць яго вянцом стварэння, (...) корміцца малаком і мясам, адчайна любіць скачкі і паездкі, сярод статкаў баранаў і табуноў коней ён знаходзіць задавальненне ўсіх сваіх патрэб; захаванне ці набыццё гэтых статкаў і табуноў складае галоўны яго клопат. Выдатны пастух, які добра ведае жывёлагадоўлю, прысвячае ёй большую частку сваіх дзён. З гэтым звязаны ўвесь патрыярхальны бок яго жыцця і характару, вялікая гасціннасць, амаль дзіцячая прастата, захаванне сваіх паданняў і звычаяў, веданне прыроды і сапраўды цесная сувязь з ёй».

Пільнае вока ссыльнага рэвалюцыянера бачыла класавае расслаенне сярод казахаў. Акрамя «белай косці» — біяў, сярод іх былі і беднякі — «байгушы». Б. Залескі добра заўважаў і двудушную палітыку казахскіх баеў, біяў і старэйшын, якія, нібы абараняючы інтарэсы беднаты ад замахаў царскай адміністрацыі, на самай справе прыгняталі сваіх супляменнікаў, добра ўжываючыся з царскімі ўладамі. Царызм падкупляў вярхушку, узнагароджваў грашамі, дарыў багатыя падарункі, прысвойваў афіцэрскія і нават генеральскія званні.

Падарожнік адзначаў, што ў адрозненне ад многіх іншых народаў Усходу казахі ўспрынялі іслам павярхоўна і таму жанчыны ў іх больш свабодныя, чым у аседлых мусульманскіх народаў, што ў казахаў няма гарэмаў. У сувязі з вялікім калымам і неабходнасцю наладжваць

багатае вясельнае свята («той») мнагажоиства было прынята толькі ў багатых казахаў.

Нягледзячы на больш незалежнае становішча казашак, у параўнанні, скажам, з узбечкамі, на іх плячах ляжала ўся хатняя гаспадарка: «Яны раніцай павінны выдаіць авечак і кабыл, самі гатуюць ежу, збіваюць кумыс, ткуць сукно і палатно для адзення, катаюць лямец, нават устанаўліваюць кібіткі (...) Яны заўсёды многа працуюць, таму хутка старэюць...»

Высока ацэньваў Б. Залескі паэтычнасць і музыкальнасць казахаў: «Кіргіз (казах) любіць музыку і слухае яе ўважліва, пры яздзе ў стэпу ён любіць спяваць нізкім голасам, але заўсёды на адной ноце». У іншым месцы ён пісаў: «Вандроўныя спевакі (уланчы), якія ездзяць па стэпу, усюды паважаныя людзі; яны вельмі лёгка выклікаюць у слухачоў гарачыя апладысменты і збіраюць шматлікія падарункі». Адзін са спевакоў — «байгуш» Мурзакай разбагацеў, дзякуючы свайму таленту.

Б. Залескі прывёў узоры народных казак, а адна з іх праз тры гады пасля яе апублікавання Б. Залескім была перакладзена на рускую мову і змешчана ў кнізе «Нарысы Сярэдняй Азіі» вядомага венгерскага падарожніка па Азіі А. Вамберы.

Нямала месца ў работах Б. Залескага адведзена апісанню магільных камянёў, маўзалеяў і іншых археалагічных помнікаў Казахстана. Не менш цікавыя звесткі пра прыроду Урала і жыццё башкірскага народа прывёў наш ссыльны зямляк у пісьмах да Р. Сабаньскай.

У сваіх літаратурных запісах і мастацкіх замалёўках з натуры ссыльны рэвалюцыянер з Беларусі ўпершыню знаёміў і землякоў, і заходнееўрапейскіх чытачоў з жыццём Казахстана і Башкірыі. Яго работы ўпрыгожаны унікальнымі гравюрамі, на якіх адлюстраваны карціны народнага быту і характэрныя мясціны гэтых краёў. Таленавіты мастак і літаратар, Б. Залескі пакінуў некалькі апісанняў Казахстана і Прыуралля, якія і сёкня не страцілі сваёй актуальнасці.

## КАЛІ І СМЕРЦЬ НЕ СПЫНЯЕ

Ёсць імёны падарожнікаў, якія не старэюць; Пржэвальскі, Міклуха-Маклай, Лівінгстан, Амундсен, Скот... Сярод іх імя Чэрскага.

Іван Дзяменцьевіч (Ян Дамінікавіч) Чэрскі памёр 7 ліпеня 1892 года ў час экспедыцыі на руках у жонкі, на вачах у адзінага сына. Але да канца ён заставаўся на носе карбаса (рачнога судна) і назіраў за ракой Калымой і днём і светлай палярнай ноччу. А жонцы ён наказаў працягваць шлях уніз да Ледавітага акіяна нават пасля сваёй смерці, каб завяршыць экспедыцыю і назіранні за нязведанымі мясцінамі.

Ужо ведаючы, што ён асуджаны, Чэрскі запісаў у дзённіку: «Я зрабіў распараджэнне, каб экспедыцыя не спынялася (...), нават у тым выпадку, калі надыдуць мае апошнія хвіліны, і каб мяне ўсё цягнулі наперад і нават у той момант, калі я буду адыходзіць».

Бура трымала на хвалях лодку з целам нябожчыка некалькі сутак, і толькі 28 чэрвеня ўдава пахавала яго на левым беразе Калымы супраць вусця ракі Амалон.

Нарадзіўся Чэрскі далека ад Сібіры, на поўначы Беларусі. Яго родны дом быў у маёнтку Сволна (цяперашняга Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці). Тут ён убачыў свет 15 мая 1845 года ў сям'і беднага беларускага двараніна.

Цяжка знайсці другога айчыннага падарожніка, чый лёс быў бы больш цяжкім, чым у Чэрскага. Рана страціць бацьку, прыняць удзел у «бунце супраць цара» ў радах паўстанцаў 1863 года, служыць радавым лінейнага батальёна ў Омску, там, дзе за дзесяць год да гэтага ў такім жа батальёне служыў Дастаеўскі,— і ўсё гэта ў няпоўныя дваццаць чатыры гады. Цяжка даводзілася маладому салдату на пляцу, у казармах, каравулах. Выручала толькі добрая фізічная падрыхтоўка.

Імкненне да ведаў дазволіла вынесці Чэрскаму цяжар ваеннага жыцця, Самаадукацыя замяніла юнаку вышэйшую школу. «Пры свечцы, якая курэла, у брудным памяшканні закінутай лазні гадзінамі праседжваў малады даследчык над анатамічнымі прэпаратамі, здабываючы матэрыял з вялікай цяжкасцю»,— успамінаў пазней аб ім адзін з яго сяброў Б. Дыбоўскі, ссыльны даследчык жывёльнага свету Сібіры. Юнака адмовіліся прыняць ва універсітэт, як палітычнага злачынцу, яго артыкулы адхілялі навуковыя часопісы.

Вучоныя Сібіры і цэнтра даведаліся пра маладога даследчыка, пра яго дапытлівасць і здольнасці. Восенню 1871 года малады навуковы цэнтр Сібіры — Усходне-Сібірскі аддзел Рускага геаграфічнага таварыства запрасіў да сябе з Омска на пасады пісара, бібліятэкара і кансерватара музея 25-гадовага палітычнага ссыльнага Чэрскага.

Малады вучоны рушыў праз усю Сібір у Іркуцк, дзе размяшчаўся аддзел. Б. Дыбоўскі ўспамінаў аб гэтым: «Не маючы сродкаў на дарогу, І. Чэрскі прадаў усё, што меў, і пакінуў самае неабходнае з адзення: кажух, футравую шапку і пімы. У такім сібірскім уборы, у марозную сібірскую зіму, пакутуючы ад холаду і часта галадаючы па дарозе, прыбыў ён у сталіцу Усходняй Сібіры».

На берагах самага глыбокага ў свеце возера разгарнуўся даследчы талент Чэрскага. Вучоны сістэматызаваў і апісаў астанкі выкапневых жывёлін, што захоўваліся ў кучах. У Ніжнеўдзін-

скай пячоры на беразе Ангары вучоны знайшоў косці дваццаці відаў выкапневых жывёлін.

Чэрскі ўпершыню ў нашай краіне выявіў і правільна растлумачыў помнік старажытнага каменнага веку на правым" беразе прытоку Ангары Ушакоўкі. Затым даследчык вывучыў адгор'і, якія сціскалі даліну ракі Іркут.

У 1873-1876 гадах Чэрскі вывучаў прыроду Саян, Прысаяння, Прыангар'я, у 1877-1880 гадах — геалагічную будову берагоў Байкала, у 1881-1882 гадах — басейна рэк Сяленгі і Ніжняй Тунгускі. Ён выявіў нядаўнюю вулканічную дзейнасць паблізу возера. За работы па геалогіі ўзбярэжжа Байкала Чэрскі атрымаў залаты медаль Рускага геаграфічнага таварыства. Чатыры гады ён вывучаў геалагічную будову «слаўнага мора» і яго жывёльны свет. Чэрскі падымаўся на каменныя скалы берага, адбіваў ад іх кавалкі парод. На цвёрдых скалах ён рабіў засечкі, каб вучоныя ў будучыні змаглі вызначыць, падымаюцца ці апускаюцца берагі Байкала. На падставе сваіх запісаў вучоны склаў геалагічную карту берагоў Байкала. Чэрскі выказаў ідэю эвалюцыйнага развіцця рэльефу, прапанаваў першую палеатэктанічную схему для Сібіры.

Вывучэнне Байкала прынесла Чэрскаму славу. Рускае геаграфічнае таварыства ўзнагародзіла яго яшчэ адным залатым медалём. Вясной 1885 года Акадэмія навук выклікала вучонага ў сталіцу з тым, каб правесці геалагічныя даследаванні ўздоўж паштовага тракту ад Іркуцка да Урала. Пасля гэтага Чэрскі застаўся ў сталіцы для работы ў Геаграфічным таварыстве. Вучоны толькі цяпер атрымаў доўгачаканую амністыю.

Акадэмія навук даручыла Чэрскаму вызначыць і апісаць косці старажытных жывёлін, прывезеных з берага мора Лапцевых. На падставе іх аналізу даследчык прыйшоў да вываду, што месцы, занятыя цяпер тундрай, былі ў свой час пакрыты лесам, які даваў корм мамантам і насарогам.

Толькі ў самой Сібіры Чэрскі змог бы вырашыць пытанне, як жылі там жывёлы ў пасляграцічны перыяд. Разам з ім ехала жонка Маўра Паўлаўна і 11-гадовы сын.

Праз Іркуцк Чэрскі і яго спадарожнікі прыбылі ў вёску Качуг на Лене. Па ёй спусціліся яны ў Якуцк, дзе І. Чэрскі наняў вопытнага праваднiка, казачага ўрадніка Сцяпана Растаргуева, удзельніка дзвюх экспедыцый па Калыме, Чукотцы і Камчатцы.

Чэрскі, як пісаў яго сябар Б. Дыбоўскі, меў асаблівы дар выклікаць сімпатыю ўсіх. Але асабліва яго любілі сібірскія сяляне і бураты. Кожны з іх, як гаворыцца, пайшоў бы за яго ў агонь і ваду. Ва ўсіх праваднікоў, з якімі ён вандраваў у час шматлікіх падарожжаў, не хапала слоў, каб выказаць захапленне і здзіўленне яго энергіяй, адвагай, нястомнасцю і

розумам. Яны называлі яго «наш Іван Дзяменцьевіч», таму што гэта імя па бацьку лягчэй запаміналася сібіракамі, чым «Дамінікавіч», і так прасіў называць яго сам Чэрскі. Знаходзячыся сярод народа, ён змог асвоіць мову і стыль размоў мясцовага насельніцтва, сабраў вялікі матэрыял, які тычыў вераванняў, забабонаў, народнай медыцыны і г. д.

14 чэрвеня 1891 года караван выйшаў з Якуцка. Непадалёку ад вусця ракі Амгі давялося перапраўляцца цераз Алдан. За Алданам былі балоцістыя берагі ракі Хандыгі, даліны рэк, разбітых на дзесяткі рукавоў, «тарыны» —наледзі ў іх рэчышчах, якія захаваліся да глыбокай восені, перадгор'і Верхаянскага хрыбта.

Нарэшце пераваліпі хрыбет і спусціліся да Аймякона. Тут падарожнікаў затрымаў на некалькі дзён разліў Індзігіркі. Паміж Індзігіркай і ракой Нерай экспедыцыя перасекла хрыбет, які Чэрскі нанёс на карту пад назвай ТасКыстабыт (камень накіданы). Затым быў другі хрыбет—Улахан-Чыстай (вялікая бязлесная прастора), даліна ракі Барулах і, нарэшце, паўднёвая частка хрыбта Тамус-Хая — Індзігірска-Калымскі водападзел.

Караван спяшаўся да Верхне-Калымска, дзе трэба было перазімаваць. Надвор'е псавалася, неяк нават паваліў снег.

Але, нягледзячы на ўсё гэта, Чэрскі любаваўся прыгажосцю дзікіх гор, неабсяжных лясоў, шырокіх далін Якуціі.

І. Чэрскі маляўніча апісваў нязвыклыя яго воку ландшафты краю: «Уявіце, напрыклад, жаўтаватаці зеленавата-белае покрыва з прыгожых сухіх імхоў, на фоне якіх удала раскіданы як цёмна-зялёныя, нібыта аксамітныя ўчасткі шыкшы (Empetrum), якія не хутка паддаюцца дзеянню восені, так і крывава-барвовыя плямы драбнейшай тундравай бярозкі, так і яшчэ больш яркага лісця адной расліны, што чырванее восенню».

28 жніўня падарожнікі прыбылі ў Верхне-Калымск. Удзельнікі экспедыцыі пасяліліся для зімоўкі ў невялікім доміку са слюдзянымі вокнамі. Зімой яны ўставілі замест іх ільдзіны і абмарозілі сцены і плоскія дахі сумессю снегу і вады. Усё гэта надзейна абараняла ад лютага холаду. З-за дарагоўлі прадуктаў членам экспедыцыі давялося эканоміць на хлебе і цукры і есці пераважна рыбу і ікру.

І ў Верхне-Калымску Чэрскі вывучаў мову і звычаі мясцовых жыхароў — якутаў, юкагіраў, эвенаў (ламутаў). Ён падрабязна апісаў шаманства, вераванні, каляндар, хваробы і іх лячэнне, запісваў песні і казкі мясцовых народаў.

Вучоны запісваў паэтычныя назвы з'яў прыроды. Аб палярным ззянні якуты гаварылі: «У юкагіраў агонь гарыць». Якуты лічылі, што

палярнае ззянне ўзнікае ад загарання серных гор ад дзеяння снегу і ўяўляе сабой выпарэнні серы. Міганне зорак у ясную зімнюю ноч якуты называлі «танцамі і спевамі зорак». Маманта якуты назвалі «вадзяным зверам», што нібыта робіць хады пад зямлёй, ад правалу якіх утвараюцца лагчыны. Верагодна, гэта павер'е ішло ад таго, што косці маманта знаходзілі ў зямлі. Рогі выкапневага насарога мясцовыя жыхары лічылі кіпцюрамі гіганцкай птушкі, якая быццам бы магла падняць у паветра быка ці конніка разам з канём.

Раніца вучонага іншы раз пачыналася песняй праязджаючага якута. «На досвітку, пасля звычайных маіх назіранняў, я нярэдка з задавальненнем сачу за такім спеваком, які імчыцца на чацвёрцы сабак уздоўж снежнай заслоны рачнога рэчышча,— пісаў Чэрскі.— Паступова заміраючая, тужлівая трэль гэта заўсёды навявала на мяне нешта млява-сентыментальнае. Апяваў ён прыгажосць зары пры лютым марозе ці надзеі на добры лоў налімаў — магчыма ў песні той фігурыраваў і я — жыхар невядомага ім свету, які стаяў тады на вышыні берагавога схілу яго роднай мовы?»

Вучоны асуджаў заходніх даследчыкаў, якія грэбліва выказваліся пра жыхароў Паўночнай Азіі: «У мяне, напрыклад, жыве сёння малады якут (Анісім Сляпцоў), разумовым здольнасцям якога і сіле той цікавасці, якая праяўляецца ў яго да навукі і ўвогуле да іншых пытанняў, могуць пазайздросціць і многія еўрапейцы».

Чэрскі склаў праект забеспячэння жыхароў таварамі, каб пазбавіць іх ад вымагання кулакоў, якія выманьвалі ў мясцовай беднаты футра за бясцэнак. Ён прапаноўваў адкрыць запасныя рыбныя склады, даваць людзям казённы хлеб.

Вучоны прыйшоў да вываду, што ў вярхоўях Калымы, Індзігіркі і Яны жорсткія маразы не могуць перашкаджаць развіццю земляробства.

Набліжалася вясна. Падарожнік адчуваў сябе ўсё горш і горш. Апасаючыся блізкага канца, ён склаў 25 мая 1892 года завяшчанне.

Нягледзячы на дрэннае самаадчуванне, Чэрскі настаяў на адплыцці, 31 мая верхнекалымчане адправілі яго ў апошнюю дарогу. Але і на краі магілы І. Чэрскі заставаўся ўсё тым жа абаронцам слабых. Палітычны ссыльны Ш. Шаргародскі наведаў падарожніка ў час адной з апошніх стаянак. Ён пісаў: «Від нябожчыка Івана (Дзяменцьевіча) зрабіў на мяне цяжкае ўражанне; яго худое, як трэска, цела, жоўты колер твару з густым зямлістым адценнем і дрыжачыя рукі так і гаварылі, што гэты чалавек ужо не жылец больш на белым свеце. (...) Я быў уражаны спакоем гэтага чалавека, упэўненага ў блізкай смерці, і гатоўнасцю сустрэць яе, яго здольнасцю цікавіцца на краі магілы жыццём людзей, з якімі так ці інакш сутыкаўся, жывучы

ў Верхне-Калымску, цікавіцца кожнай драбязой, якая так ці інакш тычыцца прадмета яго даследаванняў, яго здольнасцю пераходзіць ад размовы аб блізкай і немінучай смерці да размовы пра тое, што няшчасныя іншародцы (мы гаварылі пра якутаў і ламутаў) пакутуюць ад кулакоў значна больш, чым ад суровых умоў краіны. Ён не толькі гаварыў пра гэта, але і перажываў кожнае слова, што прымусіла мяне спыніць гэтую размову».

Смерць прыйшла роўна праз дваццаць два дні пасля гэтай сустрэчы.

Ва Усходняй Сібіры вучонаму стаяць вечныя помнікі — горная сістэма Чэрскага ў Паўночна-Усходняй Якуціі, краж Чэрскага ў Забайкаллі, гара Чэрскага пад Іркуцкам, перавал Чэрскага на рацэ Харок, даліна Чэрскага ў Саянах, горад Чэрскі ў нізоўях Калымы.

Сучасныя даследчыкі псіхалогіі навуковай працы прыводзяць дзейнасць Чэрскага як яркі прыклад мінімуму прэтэнзій першаадкрывальніка, нягледзячы на яго наватарства. І. Чэрскі арыентаваўся на прадмет даследавання, а не на самасцвярджэнне, дасягненне лепшых ацэнак сваіх вынікаў ці славу.

## ПОМНІК БЕЛАРУСУ Ў ЧЫЛІ

Карэта павольна рухалася па дарозе. Двое коней, запрэжаныя ў яе, лянiва перастаўлялі ногі, і толькі час ад часу, калі фурман пагражальна выкрыкваў «но!», буланыя з кароткага кроку пераходзілі на трушок.

Праз адвешанае акно карэты раз-пораз выглядваў малады чалавек. Па твары было бачна, што ён бясконца доўга можа любавацца гэтымі пералескамі, палямі, прыдарожнымі фарбамі, проста сінявокай далячынню, якая, плывучы насустрач, паступова мяняла свае краявіды.

Шчыра кажучы, адчувалася яшчэ і тое, што спадарожнік узбуджаны. Яго вочы свяціліся. Справа ў тым, што амаль год назад, калі малады чалавек атрымаў першую вучоную ступень кандыдата філасофіі, царскія ўлады разграмілі маладзёжнае таварыства філаматаў, у якім па прапанове паэта Адама Міцкевіча, ягонага земляка, быў і ён, Ігнат Дамейка. Маладыя патрыёты выступалі супраць нацыянальнага прыгнёту, за адмену прыгонніцтва. Іх арыштавалі і доўга трымалі пад следствам. Толькі дзякуючы стараниям багатых сваякоў Дамейку ўдалося пазбегнуць суровага пакарання, а адзін з іх наогул узяў кандыдата філасофіі пад сваю апеку.

Праўда, за бунтаўшчыком па загаду цэсарэвіча Канстанціна, які падпісаў канчатковы прысуд, быў устаноўлены паліцэйскі нагляд, але гэта не вельмі палохала Дамейку, бо і ў вёсцы Заполле, недалёка ад Ліды, куды яго адправілі дзядзькі, ён не сядзеў без справы.

Ігнат Дамейка, які нарадзіўся 30 ліпеня 1802 года, рана застаўся без бацькі. Будучы падлеткам, скончыў школу манахаў у Шчучыне, а з чатырнаццаці год вучыўся ў Віленскім універсітэце.

Верны прынцыпам філаматаў, ён і ў Заполлі змяншаў паншчыну сялянам, арганізаваў школу для іхніх дзяцей, дзе сам вёў заняткі.

У час паўстання 1831 года ў Беларусі і Літве Дамейка быў у першых шэрагах змагароў супраць царызму. Атрад, у якім ён служыў, пасля геройскіх баёў з царскім войскам перайшоў мяжу і здаў зброю прусакам. Дамейка пасяліўся ў Парыжы і тут скончыў Горную вышэйшую школу.

Калі адзін з ініцыятараў пашырэння здабычы серабра ў далёкай рэспубліцы Чылі стаў шукаць кандыдата на пасаду выкладчыка хіміі для мясцовага калегіума, каб рыхтаваць там горных тэхнікаў, прафесары парыжскай Горнай школы прапанавалі яму вучонага родам з Беларусі. У студзені 1838 года Дамейка ўжо ў дарозе. Доўгі шлях у Паўднёвае паўшар'е пралёг праз Атлантычны акіян, аргенцінскія стэпы і высокія, пад самае неба, горы Кардыльеры.

Ці думаў, ці гадаў наш зямляк, што гэты шлях для яго стане, па сутнасці, сцяжынкай у бессмяротнасць, што ў будучыні яго абвесцяць народным героем Чылі, што ў Сант'яга яму паставяць помнік, адальюць юбілейны медаль, што яго імем назавуць некалькі населеных пунктаў, горны хрыбет, асобныя віды мінералаў, фіялкі і малюскаў? Іm кіравалі зусім іншыя мэты: унесці ўклад у развіццё сусветнай навукі і адначасова дапамагчы адсталай краіне.

Чылійцы вельмі гасцінна сустрэлі Дамейку. Каля дваццаці вучняў старанна слухалі яго лекцыі, а ў вольны час прымалі ўдзел у будаўніцтве вялікай лабараторыі.

Прафесар калегіума не любіў заседжвацца на адным месцы. Ён часта адпраўляўся ў экспедыцыі па малавядомай краіне, вывучаў асаблівасці геалагічнага складу краіны, праводзіў метэаралагічныя і мінералагічныя даследаванні, выявіў новыя месцараджэнні золата і серабра. Вучоны ўнёс уклад і ў этнаграфічную навуку Чылі. Ён наведаў малавывучаную тэрыторыю Араўканію, у якой жылі незалежныя індзейцы мапучэ. Іх побыт Дамейка апісаў у кнізе «Араўканія і яе жыхары», якая выйшла ў свет спачатку ў Сант'яга, а потым у Вільні.

Наш зямляк крытыкаваў захопніцкую палітыку чылійскіх абшарнікаў, якія зганялі мапучэ з іх зямель, заклікаў адмовіцца ад ваенных дзеянняў і стварыць у Араўканіі школы. Прывезеныя з падарожжа ўзоры мастацтва і быту мапучэ паслужылі асновай для стварэння цікавага музея.

Тэрмін кантракта з нашым земляком заканчваўся. Урад Чылі прапанаваў Дамейку

застацца ў краіне. Той згадзіўся: удзельніку паўстання супраць самадзяржаўя вяртацца дадому было нельга. З горада Какімба, у якім ён працаваў, І. Дамейка пераехаў у сталіцу і ўзначаліў кафедру хіміі мясцовага універсітэта.

Тут Дамейка працаваў у розных галінах павукі і адукацыі, ён першым звярнуў увагу на чылійскуго салетру, якая па яго прадбачанию набыла як угнаенне вялікую папулярнасць за межамі краіны, прапанаваў праект размяшчэння школ, прымау удзел ва удасканаленні водазабеспячэння сталіцы, укараніў метрычную сістэму мер, напісаў шмат дапаможнікаў па фізіцы, хіміі, метэаралогіі, стварыў тры музеі, некалькі бібліятэк, адкрыў шэраг відаў раслін, цікавіўся дзейнасцю мясцовых вулканаў, склаў геалагічную карту Чылі... Сто трыццаць навуковых прац вучонага выйшлі на розных мовах свету, прыносячы ўсё большую папулярнасць іх аўтару.

У 1866 годзе Дамейка прадстаўляў Чылі на сусветнай выстаўцы ў Парыжы. Пасля вяртання з Францыі яго выбіраюць рэктарам універсітэта, і гэту пасаду ён займае 17 гадоў.

Вучоны не парывае сувязі з роднымі і сябрамі. У бібліятэцы Акадэміі навук СССР у Ленінградзе мы натрапілі на некалькі работ Дамейкі з аўтарскімі дароўнымі надпісамі.

На старасці год, у 1884 годзе, вучоны наведаў родныя мясціны, пабываў у Навагрудку, Міры, Крошыне, Лідзе, ну і, вядома, у роднай Нядзведцы. Потым ён адправіўся ў Італію, адтуль у Турцыю, Палесціну, Егіпет. Закончыўшы падарожжа, ён пасяліўся ў Парыжы.

Чылійцы не хацелі пакідаць у адзіноце свайго сябра, яны горача прасілі яго вярнуцца. У хуткім часе Дамейка вяртаецца ў краіну, у якой правёў не па сваёй волі большую частку жыцця. 23 студзеня 1889 года тут перастала біцца яго сэрца...

## У ТРАПІЧНЫХ ЛЯСАХ ЛАЦІНСКАЙ АМЕРЫКІ

У жніўні 1865 года з Тулона на катаргу ў Французскую Гвіяну ў труме фрэгата «Амазонка» адпраўлялі некалькі соцень зняволеных. Добраўпарадкаваныя каюты наверсе займалі афіцэры, чыноўнікі і купцы. Між верхнім і ніжнім ярусамі знаходзіліся памяшканйі для жандараў і варты. Тут жа плыў і малады пасажыр, які ехаў у Амерыку вывучаць яе багаты жывёльны свет.

Яго звалі Канстанцінам Ельскім. Нарадзіўся К. Ельскі ў сяле Ляды Смілавіцкай воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні 17 лютага 1837 года ў сям'і абяднелых дваран. Па маці ён даводзіўся сваяком вядомаму кампазітару Станіславу Манюшку, ураджэнцу тых жа мясцін.

Пасля заканчэння Мінскай гімназіі К. Ельскі вучыўся на медыцынскім факультэце Маскоўскага універсітэта і матэматыка-прыродазнаўчым факультэце Кіеўскага універсітэта. Затым

ён выкладаў у Кіеве ў гімназіі і вывучаў жывёльны свет Украіны, быў адным з першых у Расіі прыхільнікаў эвалюцыйнай тэорыі Ч. Дарвіна.

Жыццё ўнесла папраўкі ў навуковыя планы маладога даследчыка. Вясной 1863 года ў Кіеў прыехаў гімназічны таварыш К. Ельскага вучоны-заолаг Б. Дыбоўскі. Ён правяраў сярод рэвалюцыйна йастроенай моладзі падрыхтоўку да маючага адбыцца паўстання супраць царызму. Неўзабаве пачаліся арышты, і К. Ельскі, апасаючыся прасследаванняў, пераходзіць румынскую граніцу і працуе ў Турцыі геолагам. Пазней ён гіераязджае ў Парыж, адкуль і какіроўваецца ў Гвіяну.

К. Ельскі прыбыў у цэнтр французскай калоніі Каену, дзе стаў працаваць памочнікам фармацэўта. Сваё знаходжанне ў Каене вучокы пазней апісаў у «Папулярна-прыродазнаўчых апавяданнях», што выйшлі ў свет пасля яго смерці.

Даследчык збіраў птушак, кажаноў, насякомых, якіх было вельдлі многа ў тропіках. Ён плаваў па рэках Ко, Аяпок, Тапраба, Мароні, Уасе ўнутр Гвіяны, лячыў хворых на астравах Выратавання — Каралеўскім, Сан-Жазеф, Чортавым, на якім размяшчалася Каенская катарга.

Каб лепш вывучыць прыроду Гвіяны, К. Ельскі згадмсаўся выязджаць для работы ў самыя аддаленыя месцы краіны, Ён замяняў урача ў бальніцы для пракажоных на Сярэбранай гары і ў аптэцы ў паселішчы для ссыльных у Сан-Ларане.

Даследчык апісваў звычайныя для тропікаў, але зусім невядомыя на яго радзіме віды жывёл — ляніўцаў, малпаў, браняносцаў, трапічных мурашак. Не менш, чым жывёлінам, ён удзяляў увагу трапічйым раслінам — прыгожым архідэям, шматлікім відам ліян і пальм, лясам з рызафор — дрэваў, што выпускалі карэнні з пнёў і галінак у паветра. Праз карані яны йабіралі вільгаць з насычанага вадзянымі парамі трапічнага паветра. У рызафорных лясах жьті асаблівыя, уласцівыя толькі ім віды жывёл.

Нямала ўвагі ў сваіх нарысах К. Ельскі ўдзяліў і гаспадарчаму выкарыстанню багаццяў прыроды Гвіяны. З карэнняў дрэўца маніёка мясцовыя негры рабілі крупы «куак», маладое лісце вярхушак пальм ішло ў ежу свежым ці печаным. Кару рызафор выкарыстоўвалі для дублення скуры.

К. Ельскі жыў разам з мясцовымі індзейцамі, якія часта перасяляліся з месца на месца, забіраючы з сабой для новых агародаў сцябло маніёка, зерне кукурузы, бавоўны і гарбуза. Абарыгенаў станавілася ўсё менш і менш. «Індзеец гіне, таму што зведвае цывілізацыю пры дапамозе прагных купцоў, якія за гарэлку атрымліваюць усё, што індзеец можа здабыць»,— пісаў наш зямляк.

У 1869 годзе К. Ельскі пераехаў з паўночнага ўзбярэжжа Паўднёвай Амерыкі, з Гвіяны, на яе заходняе ўзбярэжжа — у Перу. Тут вучоны вывучаў фауну ваколіц сталіцы краіны Лімы, пераправіўся цераз Анды ў даліну Чанчамаё і ў раён возера Хунін. Працаваў К. Ельскі ў прыродазнаўчым музеі ў Ліме. У 1875-1878 гады разам з вучоным Я. Штольцманам К. Ельскі даследаваў паўночныя раёны Перу на мяжы з Эквадорам, вывучаў прыродны свет даліны вярхоўяў ракі Мараньён (Амазонка). Гэтыя даследаванні апісаны Я. Штольцманам у яго двухтомнай кнізе «Перу».

У 1878 годзе К. Ельскі вярнуўся ў Еўропу. Ён працаваў спачатку ў Варшаве, а затым у Кракаве ў Акадэміі навук і на вышэйшых жаночых курсах прыродазнаўства пры Прамысловым музеі. Памёр даследчык 26 лістапада 1896 года.

Заолаг адкрыў новыя віды трапічных жывёл. Яго імем названы асобныя віды птушак і звяроў.

## ДАСЛЕДЧЫК «СЛАЎНАГА МОРА»

Самае глыбокае і празрыстае возера, якое ўмяшчае адну дзесятую вод усіх азёраў свету,— Байкал нездарма празвалі «слаўным морам» за яго прыгажосць і багацце. А быў час, калі вучоныя лічылі яго воды мёртвымі, сцвярджаючы, быццам бы высокі ціск вады выключав там наяўнасць жывёльнага свету. Прычым гэта сцвярджэнне прымалася на веру — без даследавання вады возера.

Першым, хто абвергнуў гэтую псеўданавуковую тэорыю сваімі даследаваннямі, быў Бенядзікт Дыбоўскі. Нарадзіўся вучоны 29 красавіка 1833 года ў маёнтку Адамарын Мінскага павета (цяпер Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці). У заалагічнай наменклатур'ы ілля Дыбоўскага паўтараецца пяцьдзесят разоў: цюлень Дыбоўскага, алень Дыбоўскага, глыбакаводная рыба Дыбоўскага. На вяршыні гары Хамар-Дабан на ўсход ад вытоку Ангары з Байкала можна ўбачыць памятную дошку ў гочар Дыбоўскага.

Вучоны рашуча адхіліў прапанову Рускага геаграфічнага таварыства хадайнічаць аб дазволе насіць побач са сваім прозвішчам прыстаўку «Байкальскі». Дабівацца гэтага дазволу трэба было ў цара, а Б. Дыбоўскі за актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху быў сасланы ў Сібір.

У свой час Б. Дыбоўскі вучыўся ў Мінскай гімназіі і універсітэтах Дэрпта і Брэслаў, удасканальваў свае прыродазнаўчыя веды ў Берліне, Стакгольме і Пецярбургу. Навуковыя і грамадскія погляды вучонага складваліся пад уплывам рэвалюцыйнага руху ў Расіі і Польшчы. У Пецярбургу ён пазнаёміўся з М. Чарнышэўскім, зблізіўся з будучым генералам Парыжскай

камуны Я. Дамброўскім, з рэвалюцыянерам Сігізмундам Серакоўскім,

Б. Дыбоўскі арганізаваў у Вільні маніфестацыю пратэсту супраць царызму, за што быў сасланы. Пасля вяртання ён выкладаў заалогію ў Галоўнай школе ў Варшаве. Ніхто не падазраваў, што ад'юнкт-прафесар заалогіі актыўна ўдзельнічае ў стварэнні «Літоўскага правінцыяльнага камітэта», які кіруе рэвалюцыйным рухам у Літве і Беларусі, што на яго кватэры і ў кабінеце заалагічнага музея праходзяць пасяджэнні падпольнага кіраўніцтва паўстаннем супраць самадзяржаўя, што ў шафах і падстаўках чучалаў музея схаваны дакументы гэтага кіраўніцтва.

Жандары схапілі вучонага, яму пагражала шыбеніца. Толькі на месцы пакарання Б. Дыбоўскаму паведамілі пра замену пакарання смерцю дванаццацігадовай катаргай.

Яго везлі ў Сібір поездам, у кібітцы, на санках. Частку дарогі вучоны ішоў пешшу, з кайданамі на нагах. Ад змрочнай перспектывы выратавала любоў да навукі. Калі калоднікі чакалі пераправы цераз Ангару, Б. Дыбоўскі не спяшаўся трапіць на паром, а шукаў на водмелі малюскаў, каб потым вызначыць іх від.

Пачалася знясільваючая праца на лесасплаве. Пазней Б. Дыбоўскаму дазволілі пераехаць для работы ўрачом на мінеральныя воды пад Чыту. Тут ён вывучаў жыццё мясцовых птушак і рыб і выяўляў адрозненні ўсходнесібірскай фауны ад усходнееўрапейскай і цэнтральна-азіяцкай.

Летам 1868 года яму дазволілі перабрацца ў вёску Култук на беразе Байкала. Тут Б. Дыбоўскі вывучаў хістанні ўзроўню вады, яе тэмпературу, прамяраў глыбіню возера. Вучоны праводзіў даследаванні, нярэдка знаходзячыся на лёдзе возера па некалькі тыдняў пры саракаградусным марозе. Ён даказаў, што жывёльны свет Байкала надзвычай разнастайны і што ў возеры, насуперак існуючай думцы, знаходзяцца сотні відаў рыб, рачкоў і іншых істот, якія ў асноўным сустракаюцца толькі тут.

Працы Б. Дыбоўскага атрымалі прызнанне вучоных. У яго з'явілася магчымасць пабываць у Прыамур'і і Прымор'і, на возеры Ханка, ва Уладзівастоку, на востраве Аскольд, у бухце Находка, дзе сабраў багатыя матэрыялы для заалагічных калекцый. Сустракаўся Б. Дыбоўскі з вядомымі айчыннымі даследчыкамі Далёкага Усходу Мікалаем Пржавальскім і кітаязнаўцам Паладзіем Кафаравым.

Атрымаўшы свабоду, вучоны вырашыў паехаць на Камчатку, каб пацвердзіць выяўленае ім у Прыбайкаллі і Усурыйскім краі адрозненне жывёльнага свету Заходняй і Усходняй Сібіры.

На далёкім паўвостраве Б. Дыбоўскі прапрацаваў пяць гадоў, выязджаў углыб Камчаткі і на Камандорскія астравы. Тут ён спалучаў работу

натураліста і ўрача, змагаўся з эпідэміямі, даказаў, што на суровай камчацкай зямлі можна займацца сельскай гаспадаркай.

Пасля вяртання з Камчаткі вучоны амаль чвэрць стагоддзя выкладаў у Львоўскім універсітэце, значна пашырыў мясцовы заалагічны музей. Сібірскія калекцыі Б. Дыбоўскага ўзбагацілі навуку.

Прызнаннем заслуг вучонага было выбранне яго членам-карэспандэнтам Акадэміі навук СССР у 1928 годзе, ганаровым прафесарам Львоўскага і Віленскага універсітэтаў. Памёр Б. Дыбоўскі 31 студзеня 1930 года і быў пахаваны на Лычакоўскіх могілках Львова. Ён пакінуў надзвычай цікавыя ўспаміны.

## ЭНТУЗІЯСТ АСВАЕННЯ САХАЛІНА

У сваёй кнізе «Востраў Сахалін» рускі пісьменнік А. Чэхаў не раз спасылаецца на работы ўрача Фамы Аўгусціновіча (1809-1891), які вывучаў жыццё гэтага далёкага кутка нашай краіны. Бацька яго быў селянінам Віленскай губерні, і сыну вялікіх цяжкасцей каштавала трапіць у Свіслацкую гімназію, а затым на медыцынскі факультэт Віленскага універсітэта. У 1832 годзе універсітэт быў закрыты, медыцынскі факультэт праіснаваў яшчэ дзесяць гадоў пад назвай Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Ф. Аўгусціновіч скончыў у ёй курс медыцыны з залатым медалём, неўзабаве выдаў падручнік для студэнтаў пра хірургічныя інструменты. Але ўлады не далі яму магчымасці займацца навукай і накіравалі на ваенную службу. Выпускнікоў Віленскай акадэміі пасылалі служыць далей ад родных месцаў, апасаючыся іх, рэвалюцыйнага настрою.

Калі Фаме Аўгусціновічу ўдалося выйсці ў адстаўку, ён паехаў у Палтаўскую губерню, дзе неўзабаве выдаў работу «Аб дзікарослых урачэбных раслінах Палтаўскай губерні». Пазней ён працаваў у Курскай, а затым у Пермскай губернях. У студзені 1871 года быў пераведзены ў Пецярбург.

На сёмым дзесятку гадоў разгарнулася дзейнасць Ф. Аўгусціновіча як карпатлівага збіральніка раслін у самых далёкіх кутках вялікай Расійскай імперыі. У 1871-1872 гадах ён вывучаў гігіенічныя ўмовы жыцця пасяленцаў на Сахаліне.

Каб трапіць на Сахалін, урачу давялося пераадолець бязмежныя прасторы Сібіры ў калясцы, затым ён плыў па Амуру ў лодцы і на параходзе, пакуль не прыбыў у Дуэ на заходнім узбярэжжы вострава. Дуэ вырас на рэчцы Ходжы паблізу ад неабходных для забеспячэння параходаў палівам пакладаў каменнага вугалю, якія чарнелі ў берагавых абрывах.

Ф. Аўгусціновіч правёў у Дуэ дзевяць месяцаў. Ён збіраў на востраве расліны, бачыў зарас-

нікі бамбуку ў рост чалавека, высокія сосны, жалезную лістоўніцу, гіганцкі папаратнік у рачных далінах. Даследчык вёў дзённік, які дазволіў яму напісаць артыкул «Жыццё рускіх і іншародцаў на востраве Сахаліне». Задоўга да А. Чэхава і В. Дарашэвіча ён расказаў аб поўным драматызму жыцці сахалінскай катаргі,

Нямала месца Ф. Аўгусціновіч адвёў апісанню жыцця карэнных насельнікаў вострава ніўхаў (гілякаў), арочаў і айнаў, У яго артыкуле прыведзены падрабязныя звесткі аб рыбнай лоўлі абарыгенаў, аб аленяводстве, якім яны займаліся, адзенні, жыллі, харчаванні. З абурэннем пісаў Ф. Аўгусціновіч пра тое рабства, у якім знаходзіліся працавітыя айны ў нешматлікіх японцаў, што з'яўляліся на поўдні вострава.

У 1874 годзе ўрача йакіравалі ў Якуцію для барацьбы з заразнымі хваробамі. Ён аб'ездзіў Вілюйскую акругу, а ў 1875-1876 гадах — Калымскую аж да ўзбярэжжа Ледавітага акіяна. Ф. Аўгусціновіч не толькі лячыў людзей, але і збіраў расліны і апісваў быт і нова мясцовых жыхароў. У сваіх нарысах «Тры гады ў Паўночна-Усходняй Сібіры за Палярным кругам» ён апісаў бурлівае жыццё золаташукальнікаў на Лене і Віціме, якія называў «сібірскім Сан-Францыска».

Шмат увагі падарожнік удзяліў таму, як жыло ў суровых паўночных умовах карэннае насельніцтва Сібіры — якуты, юкагіры, чаунцы, амокі, эвенкі (тунгусы), эвены (ламуты) і чукчы. Ён апісваў гігіенічныя ўмовы жыцця абарыгенаў І іх гаспадарку, перамены, уплыў рускіх на іх жыццё, напрыклад, замену ў быце скуранога адзення суконным, драўлянага і берасцянога посуду фаянсавым і металічным.

Даследчык адзначаў сумленнасць карэнных жыхароў Сібіры, ахайнасць юкагараў і асабліва эвенаў (ламутаў) — «горцаў Якуцкага краю», якія «няспынна вандруюць з вінтоўкамі па горных хрыбтах». Эвенаў лічылі там самымі лепшымі стралкамі.

Падрабязна расказаў Ф. Аўгусціновіч пра спосабы рыбнай лоўлі і палявання на Поўначы, пра тое, што якуты не давяралі царскім уладам, стараліся не звяртацца ў афіцыйныя суды. Ён адзначаў, што «паліцэйская ўлада (...) знаходзіцца ў руках чыноўнікаў (мясцовых ураджэнцаў), якія добра ведаюць якуцкую мову, і таму сувяз! іх з якутамі, пакрытыя таямнічасцю, былі па-за ўвагай нагляду абласнога ўпраўлення, да якога амаль ніколі не даходзяць скаргі якутаў на паліцыю».

Паведамленні Ф. Аўгусціновіча вызначаюцца канкрэтнасцю і сцісласцю, усе звесткі ён дакладна датуе і адзначае, дзе сабраў. Асаблівую каштоўнасць набывае ўменне падарожніка заўважыць дынаміку ў культуры, быце.

Апошнюю вялікую паездку ўрач зрабіў у 1880 годзе: ён праплыў параходам з Адэсы цераз Індыйскі і Ціхі акіяны зноў на Сахалін.

За час падарожжаў Ф. Аўгусціновіч сабраў нямала ўзораў раслін, рыб, млекакормячых, насякомых. Толькі летам 1871 года ў Сібіры ён сабраў 20 000 экземпляраў раслін, а праз 9 гадоў на Сахаліне яшчэ 400 узораў мясцовай расліннасці. Усяго з Сібіры даследчык прывёз у Пецярбург у Батанічны сад і Батанічны інстытут Акадэміі навук 40 000 экземпляраў раслін Сібіры і Далёкага Усходу. Яго калекцыямі шырока карысталіся вядомыя айчынныя батанікі. Гэтыя калекцыі склалі аснову для вывучэння расліннага свету гіаўночнага ўсходу Азіі, як адзначаў прэзідэнт Акадэміі навук СССР У. Камароў.

Энтузіяст асваення Сахаліна Ф. Аўгусційовіч наладзіў у сталіцы пасля вяртання з вострава першую Сахалінскую сельскагаепадарчую выстаўку, Яго мары аб асваенні Сахаліна збыліся толькі ў наш час.

## РЭКТАР КАЗАНСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

Казанскі універсітэт... Многіх выдатных вучоных даў ён краіне, многія яго выхаванцы праславілі імя гэтай вышэйшай школы, У самыя цяжкія часы, калі самадзяржаўе глушыла ўсё перадавое ў культуры нашага народа, прагрэсіўныя казанскія вучоныя актыўна процістаялі наступу рэакцыі.

Так было і ў мікалаеўскую эпоху, калі рэктар універсітэта перадавы матэматык М. Лабачэўскі пры падтрымцы іншых прагрэсіўных прафесароў ствараў ва універсітэце цэнтр усходазнаўчай навукі ў краіне. Для падрыхтоўкі спецыялістаў па мангольскай і бурацкай мовахі ён накіраваў маладога выкладчыка універсітэта Восіпа Кавалеўскага ў забайкальскія стэпы.

В. Кавалеўскі нарадзіўся 28 снежня 1800 года ў Вялікай Берастравіцы пад Гродна ў сям'і беларускага уніяцкага свяшчэнніка. Ён скончыў Віленскі універсітэт. Як аднаго з кіраўнікоў тайнага таварыства, яго неўзабаве выслалі пад нагляд паліцыі ў Казань, дзе В. Кавалеўскі стаў вывучаць усходнія мовы.

Пяць гадоў — з 1828 па 1833 год В. Кавалеўскі вандраваў па Забайкаллю і Далёкаму Усходу. Вучоны пісаў свайму гімназічнаму педагогу: «Мне даводзілася вывучаць мовы, якія не мелі ні граматыкі, ні слоўніка, хоць маюць надзвычай багатую літаратуру. Кожны выраз трэба было вырываць з вуснаў жывога чалавека, ацэньваць яго, перакладаць і з усім філалагічным апаратам змяшчаць у слоўнік. Трэба было скласці граматыку і навучыцца ўсім дыялектам жывой мовы ў стэпах, дрымучых лясах без дарогі, уздымацца на скалы, каб знайсці качэўІ, і ў закураных юртах шукаць людзей; знаёміцца з ламамі, ездзіць з імі на богаслужэнні ў манастыры, усюды здабываць нешта карыснае для сябе і перапісваць старадаўнія рукапісы, карпець над імі дзень і ноч. Тым часам, пагаліўшы галаву і

захутаўшыся ў мангольскі халат, я павінен быў задавальняцца талеркай так званага прасаванага чаю (з бараннім тлушчам і малаком) і кавалкам печанай на агні бараніны без хлеба і солі. Колькі ж месяцаў я павінен быў спаць на абледзянелай зямлі, засыпанай снегам, сярод вярблюдаў і аленяў! Хіба можна на гэтым аркушы тонкай паперы пералічыць усе сумныя і вясёлыя прыгоды?»

У Забайкаллі В. Кавалеўскі зблізіўся з дзекабрыстамі, якія адбывалі тут ссылку. Выхаваны на перадавых айчынных традыцыях, вучоны аказваў дапамогу буратам, сярод якіх ён жыў і культуру якіх вывучаў. В. Кавалеўскі прапанаваў расшырыць прыходскае вучылішча пры Селянгінскай бурацкай думе, дапамог стварыць Троіцка-Саўскую вайсковую школу для рускіх і бурацкіх дзяцей, арганізаваў запісы бурацкіх летапісаў і перапіску мясцовых кніг, збіраў паданні і песні буратаў.

Не выпадкова пры ад'ездзе наш зямляк атрымаў ад 18 бурацкіх родаў пісьмовую падзяку за выдатныя поспехі ў вывучэнні бурацкай мовы, дасканалае веданне мангольскіх кніг, мастацтва, праяўленае ў «перакладзе іх на расійскую мову», і «за ласкавасць у абыходжанні з намі», як пісалі бураты. І потым вучоны меў перапіску з адукаванымі буратамі, дабіўся таго, каб бурацкія дзеці вучыліся пры Казанскім універсітэце, і быў педагогам аднаго з іх — перадавога бурацкага вучонага-дэмакрата Доржы Банзарава. Кавалеўскі змяшчаў свае справаздачы, дарожныя нататкі і пісьмы ў часопісах і газетах Казані, Пецярбурга, Масквы, Парыжа. У гэтых нататках вучоны знаёміў чытачоў з малавядомымі тады краямі, іх прыродай, бытам жыхароў.

В. Кавалеўскаму ўдалося наведаць і Кітай, закрыты ад позірку старонніх па волі яго маньчжурскіх улад. Вялікадзяржаўныя кіраўнікі Кітайскай імперыі справядліва апасаліся знаёмства кітайцаў з культурай іншых народаў, якое пахіснула б асновы іх кіравання.

Забарона ўлад Кітая на наведанне краіны еўрапейцамі тармазіла вывучэнне шматвяковай культуры кітайскага народа і перашкаджала развіццю эканомікі краіны. Маньчжурскія кіраўнікі спрабавалі ізаляваць кітайцаў ад усяго свету, запэўніваючы сваіх падданых, быццам бы Кітай з усіх бакоў акружаюць малакультурныя «варвары». За Кітайскую сцяну дапускаліся толькі невялікія трупы хрысціянскіх місіянераў, састаў якіх мяняўся час ад часу.

Пісьмаводам прыстава чарговага саставу праваслаўнай місіі і быў назначаны пасля доўгіх клопатаў малады казанскі вучоны, Практычна Кавалеўскі быў перакладчыкам з мангольскай мовы, што аблягчала яму зносіны з народам.

Перад В. Кавалеўскім паўстала жудасная карціна збяднення манголаў пад уладай кітай-

скіх захопнікаў. Ён адзначаў у сваім дзённіку: «Знясіленыя і абарваныя манголы з сем'ямі сваімі цяжка жывуць, не спадзеючыся ні на што лепшае. Натоўпы іх няспынна акружаюць нас, каб атрымаць некалькі сухароў ці кавалак бараніны. (...) У другой юрце дзеці прагна накінуліся на некалькі рускіх сухароў. Не было тут ні малака, ні сыру; адзін чорны прасаваны чай служыў замест вады і ежы. Жыхары ж амаль голыя».

Маньчжурска-кітайскія ўлады тармазілі развіццё земляробства, рамёстваў і гандлю ў краіне, апасаючыся таго, каб «стэпавы жыхар з цягам часу не мог вывучыцца і падмацаваць свае сілы. Знясілены дзікі звер робіцца ручным!»

Не лепш жылі і самі кітайцы.

Вучоны сабраў у Кітаі для бібліятэкі Казанскага універсітэта каля паўтары тысячы сачыненняў на мангольскай, цібецкай, кітайскай і маньчжурскай мовах.

Пасля вяртання ў Казань В. Кавалеўскі заснаваў ва універсітэце кафедру манголазнаўства — першую ў Еўропе. Ён выдаваў слоўнікі, хрэстаматыі і іншыя дапаможнікі па мангольскай мове, стварыў айчынную школу манголазнаўцаў, атрымаў прызнанне рускіх і замежных усходазнаўцаў. Але нягледзячы на гэта, за В. Кавалеўскім па-ранейшаму сачылі. Папячыцель Казанскай вучэбнай акругі хадайнічаў аб вызваленні ад паліцэйскага нагляду В. Кавалеўскага і яго ссыльнага віленскага сябра І. Вярнікоўскага, на што Мікалай І адказаў: «Згодзен. Але самому папячыцелю працягваць часам даносіць аб іх паводзінах і поглядах».

Пасля паражэння царызму ў Крымскай вайне В. Кавалеўскаму даручылі кіраўніцтва Казанскім універсітэтам. Але калі ў Казані ў 1859-1861 гадах пачаліся студэнцкія хваляванні, міністр асветы прапанаваў цару зняць В. Кавалеўскага з пасады рэктара. На думку міністра, вучоны «не меў тых якасцей, якія патрабуюцца ад асобы, што займае гэтую важную сёння пасаду». У вачах царскага міністра былы ўдзельнік віленскіх тайных таварыстваў наўрад ці здольны ўціхамірваць і падаўляць рэвалюцыйны дух студэнцтва. 1 В. Кавалеўскага адправілі на пенсію.

У 1862 годзе ён пераехаў у Варшаву, дзе пачаў выкладаць усеагульную гісторыю ў мясцовай Галоўнай школе (пазней перайменаванай ва універсітэт). Тут і памёр 20 лістапада 1878 года наш зямляк, біяграфія якога вядома нам далека не ўся, паколькі вялікая частка яго багатага асабістага архіва загінула ў агні пры наступных акалічнасцях.

Міма дома ў Варшаве, у якім жыў вучоны, у 1863 годзе ехаў царскі намеснік граф Берг, вядомы сваімі расправам! з паўстанцамі і падпольшчыкамі і расстрэламі дэманстрацый. З акна дома ў графа кінулі бомбу. Намеснік, які

ўцалеў ад пометы, загадаў казакам знішчыць дом. Казакі спалілі і архіў В. Кавалеўскага, і маёмасць іншых жыхароў, і ў тым ліку фартэпіяна Шапэна, якое захоўвала ў сябе сястра вялікага кампазітара, суседка В. Кавалеўскага па дому.

Вось чаму расказ пра жыццё В. Кавалеўскага нам давялося складаць, у асноўным, па матэрыялах пра яго дзейнасць, якія захаваліся ў архівах Ленінграда, Вільнюса, Казані, і па яго працах, апублікаваных на рускай і польскай мовах.

Дзейнасць В. Кавалеўскага з'яўляецца жывым прыкладам развіцця прагрэсіўных традыцый навукі ў нашай краіне.

## ЗА РУЖОВАЙ ЧАЙКАЙ

Упершыню ружовую чайку выявілі паўтара стагоддзя назад у Арктыцы, але з таго часу бачылі вельмі рэдка. Як толькі птушаняты падрастаюць, яны разам з бацькамі ляцяць з якуцкага ўзбярэжжа не на поўдзень, як усе іншыя, а на поўнач, да акіянскіх пратталін, і зімуюць там. Летам 1902 года гэта прыгожая ружовая птушка з чорнымі караламі на шыі трапіла ў рукі заолага Аляксея Бялыніцкага-Бірулі, удзельніка першай рускай палярнай экспедыцыі Акадэміі навук. Вучоны падрабязна апісаў яе звычкі і вонкавы выгляд.

Нарадзіўся вучоны ў сяле Бобкаў Аршанскага павета 30 кастрычніка 1864 года ў сям'і прыродазнаўцы Андрэя Бялыніцкага-Бірулі, які наладзіў у сваім маёнтку метэаралагічную станцыю. Род Бірулаў паходзіў ад віцебскага казака Сямёна Бірулі. Адзін з Бялыніцкіх-Бірулаў загінуў пад сцягам Т. Касцюшкі, другі быў паранены ў баі супраць напалеонаўскіх войск пад Кобрынам, дзед заолага служыў на флоце пад камандаваннем адмірала Ф. Ушакова, браў крэпасць Корфу ў Іанічным моры. Вучоны быў праўнукам вядомага рускага юрыста А. Паленава, які рэзка крытыкаваў прыгонніцтва яшчэ пры Кацярыне II. Сярод сваякоў А. Бялыніцкага-Бірулі былі два вядомыя мастакі — В. Паленаў і У. Бялыніцкі-Біруля, нейрахірург А. Паленаў.

Аляксей Бялыніцкі-Біруля скончыў гімназію ў Вязьме і прыродазнаўчае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. З 1893 года і да канца жыцця працаваў у Заалагічным музеі на Васільеўскім востраве ў Пецярбургу, затым у Ленінградзе. Са студэнцкіх гадоў Аляксей Андрэевіч збіраў расліны, насякомых, марскіх жывёлін.

Самая яркая старонка жыцця даследчыка звязана з удзелам у палярнай экспедыцыі на яхце «Зара». Узначальваў экспедыцыю геолаг і географ Э. Толь, які да гэтага двойчы наведваў Новасібірскія астравы на поўнач ад Якуціі. З

узбярэжжа астравоў Э. Толь бачыў таямнічую зямлю, заўважаную ў свой час прамыслоўцам Саннікавым. Да зямлі, на якой не пабываў яшчэ ні адзін чалавек, і накіроўвалася яхта «Зара».

Э. Толь звязваў пералёты птушак на поўнач ад Новасібірскіх астравоў з Зямлёй Саннікава і імкнуўся разгадаць тайну Арктыкі. Плаванне «Зары» пачалося 8 ліпеня 1900 года. Льды не прапусцілі яхту на ўсход, і давялося зазімаваць у Таймырскім заліве. Навокал рассцілалася бясконцая тундра. Паўночныя алені статкамі пацягнуліся на поўдзень. Пачыналася палярная ноч.

Зімоўка не прайшла бясследна для А. Бялыніцкага-Бірулі: ён перанёс цынгу. Тым не менш вучоны разбіраў гербарый, сабраны на голых сланцах паўвострава Чэлюскіна — самым крайнім паўночным пункце Азіі. Наш зямляк першы апісаў бедную расліннасць гэтай мясцовасці. У час зімоўкі ён прайшоў маршрут у восемдзесят кіламетраў. З прыходам вясны даследчык узяўся за вывучэнне жывёльнага свету Таймыра.

Мінавала адзінаццаць месяцаў лёдавага палону. «Зара» рушыла далей на ўсход. Пошукі Зямлі Саннікава былі дарэмнымі. Давялося зноў зімаваць каля зострава Кацельнага з групы Новасібірскіх астравоў. Суцяшэннем было тое, што ў час плавания 1900-1901 гадоў было дроблена 76 даследаванняў і былі адкрыты новыя віды планктону.

11 мая 1902 года А. Бялыніцкі-Біруля адправіўся даследаваць жывёльны свет самага ўсходняга Новасібірскага вострава Новай Сібіры. Вучонага суправаджалі трое прамыслоўцаў. Сабакі былі моцныя, дарога добрая, і за два тыдні даследчык дасягнуў мэты.

Найбольш часта ў тундры сустракаліся птушкі камняшаркі і палярныя вераб'і — пуначкі. Грузныя чайкі-бургамістры расклёўвалі яйкі і птушанят у кайраў і чаек-маёвак. Толькі белыя чайкі давалі адпор разбойнікам. Многа кулічкоў зляталася на глеістыя водмелі. У выніку было дадзена найбольш поўнае на той час апісанне расліннасці тундры, у гербарыі з'явілася многа новых відаў раслін.

Вучоны чакаў, што «Зара» забярэ яго з вострава, аднак ільды ля ўзбярэжжа перашкодзілі гэтаму. Толькі 26 жніўня ён здалёк убачыў сваё судна, якое пайшло на поўдзень. Давялося будаваць жыллё і запасацца на зіму прадуктамі. Для гэтага зімоўшчыкі палявалі на аленяў.

К снежню мора замерзла, і ўдалося перабрацца цераз Фадзееўскі і Вялікі Ляхаўскі астравы да мыса Святы Нос, а адтуль у вёску Казачае на якуцкай рацэ Яне. Тут вучоны пачуў сумную вестку пра знікненне начальніка экспедыцыі. 5 чэрвеня 1902 года Э. Толь на сабаках выехаў да вострава Бенета, адкуль падарожнікі збіраліся рушыць на пошукі Зямлі Саннікава. Э. Толя суправаджалі астраном

Фрыдрых Зееберг і мясцовыя праваднікі Васіль Гарохаў і Мікалай Пратадзьяканаў. Было дамоўлена, што «Зара» падыдзе да вострава Бенета і здыме іх, а калі не атрымаецца, то Э. Толь і яго паплечнікі павінны былі зімаваць там ці ісці на Кацельны.

Ільды перашкодзілі караблю прабіцца да вострава. А Э. Толь усё не вяртаўся. У пачатку 1903 года Акадэмія навук арганізавала дзве выратавальныя партыі. Адна з іх дасягнула вострава Бенета, дзе было знойдзена пісьмо Э, Толя. Гэта быў апошн! след палярнйга даследчыка. З гіісьма даведаліся, што Э. Толь і яго таварышы адправіліся 8 кастрычніка 1902 года на поўдзень. Стала ясна, што даследчыкі загінулі, прабіраючыся да Новасібірскіх астравоў па тонкім лёдзе.

На жаль, смеламу кіраўніку экспедыцыі так і не ўдалося ступіць на Зямлю Саннікава. Самалёты і караблі, што даследавалі потым раён меркаванай Зямлі Саннікава, не знайшлі яе. Як высветлілася пазней, птушкі, якія ляцелі на поўнач, накіроўваліся не на гэтую чароўную зямлю, а ў Паўночную Амерыку і вярталіся гэтым жа шляхам назад. Цяпер мяркуюць, што, верагодна, нязнойдзены востраў быў складзены ў значнай ступені з выкапневага лёду і яго разбурыла мора.

Вярнуўшыся ў Пецярбург у пачатку 1903 года, А. Бялыніцкі-Біруля апрацоўваў багатыя матэрыялы экспедыцыі. Камітэт па іх выданню працаваў аж да 1919 года. Заслугі нашага земляка высока ацаніў вучоны свет. А. Бялыніцкага-Бірулю выбралі сваім правадзейным членам пяць навуковых таварystваў, а ў 1923 годзе ён стаў членам-карэспандэнтам Расійскай Акадэміі навук. К гэтаму часу ў А. Бялыніцкага-Бірулі было 115 навуковых работ.

Вучоны не забываў родных месцаў. У 1924 і 1927 гадах ён ездзіў вывучаць насякомых у Магілёўскую і Віцебскую губерні.

Памёр А. Бялыніцкі-Біруля ў Ленінградзе 18 чэрвеня 1937 года. Яго імя носяць заліў і гара на беразе Таймырскага паўвострава.

## ЭКСПЕДЫЦЫЯ ПА ПАЎНОЧНЫМ МАРСКІМ ШЛЯХУ

Значны уклад у справу вывучэння і асваення Рускай Поўначы ўнёс ураджэнец Барысаўскага павета Мінскай губерні Андрэй Вількіцкі (1858—1913). Ён скончыў Марскую акадэмію ў Пецярбургу, а затым працаваў у Галоўным гідраграфічным упраўленні і выкладаў у Марской акадэміі.

За свае навуковыя работы А. Вількіцкі быў узнагароджаны двума медалямі Рускага геаграфічнага таварыства. У 1887 годзе ён быў кіраўніком экспедыцыі на Новую Зямлю. У 1894 годзе ўзначальваў гідраграфічныя работы на

адлегласці ад граніцы з Нарвегіяй да Енісея. Яны працягваліся сем гадоў. Экспедыцыі пад кіраўніцтвам А. Вількіцкага ўстанавілі, што буйныя марскія судны могуць заходзіць у Енісей на 350 вёрст ад акіяна. Гэта дало магчымасць( ужо пры Савецкай уладзе) арганізаваць тут порт Ігарку.

Даследаванні А. Вількіцкага садзейнічалі бяспецы далейшых плаванняў у Карскім моры. Была створана новая карта ўзбярэжжа мора, Енісея і Обскай губы. А. Вількіцкі апісваў не толькі астранамічныя і гідраграфічныя назіранні, але і быт і гаспадарку народаў Поўначы: ненцаў, хантаў і эвенкаў. Экспедыцыя паслужыла штуршком да вывучэння і распрацоўкі багатых нетраў поўначы Сібіры. У 1894 годзе для патрэб экспедыцыі была здабыта невялікая колькасць вугалю за Палярным кругам, дзе цяпер вырас буйны прамысловы горад Нарыльск.

А. Вількіцкі быў прыхільнікам выкарыстання марскога шляху ў вусцях сібірскіх рэк. У 1901 годзе ён гіаспяхова праплыў з караванам караблёў з еўрапейскай часткі Расіі па Карскаму мору ў Енісей. Гэтым ён наглядна даказаў магчымасць плаванняў паміж Еўропай і вусцямі вялікіх сібірскіх рэк. Праз шэсць гадоў вучоны ўзначаліў Галоўнае гідраграфічнае ўпраўленне.

У 1912 годзе ён падтрымаў выдатнага палярнага даследчыка Г. Сядова, які звярнуўся ва Упраўленне. Сядоў рыхтаваў экспедыцыю да Паўночнага полюса.

А. Вількіцкі заўсёды адстойваў ідэю развіцця Паўночнага марскога шляху, ажыццёўленую толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Цяжкі ўрок паражэння ў вайне з Японіяй прымусіў царскі ўрад праверыць магчымасць выкарыстання скразнога Паўночнага марскога шляху.

У жніўні 1910 года савет міністраў па прапанове А. Вількіцкага вырашыў нарэшце «заснаваць Гідраграфічную экспедыцыю для даследавання Паўночнага Ледавітага акіяна ад Берынгава праліва да вусця ракі Лены». Для яе былі спецыяльна пабудаваны ледаколы «Таймыр» і «Вайгач». Экспедыцыю ўзначальвалі: з 1910 па 1913 год генерал-маёр М. Сяргееў, а з 1913 года, калі той цяжка захварэў, капітан 2-га рангу Барыс Вількіцкі (1885-1961), сын А. Вількіцкага.

Б. Вількіцкі ўзначаліў экспедыцыю толькі пасля смерці бацькі, які, па меркаваннях этыкі, быў супраць высокага назначэння сына. Ён атрымаў адукацыю ў Марскім корпусе і Ваеннамарской акадэміі, удзельнічаў у руска-японскай вайне, абараняў Порт-Артур, быў ранены і заслужыў баявыя ордэны.

У 1910-1912 гадах экспедыцыя абследавала ўзбярэжжа Паўночнага Ледавітага акіяна ад мыса Дзежнева на захад да Таймыра. Агінаючы з поўначы Новасібірскія астравы, экіпаж

«Таймыра» адкрыў новы востраў, які быў названы ў гонар аднаго з ініцыятараў экспедыцыі імем Андрэя Вількіцкага. Востраў быў апісаны і нанесены на карту.

У ходзе экспедыцыі было зроблена выдатнае геаграфічнае адкрыццё XX стагоддзя — выяўлены буйны арктычны архіпелаг.

21 жніўня 1913 года на поўнач ад паўвострава Таймыр удзельнікі экспедыцыі выявілі невядомую зямлю, да якой падышлі наступным днём. На беразе адкрытай зямлі, атрымаўшай імя Мікалая II (з 1926 года Паўночнай Зямлі), быў падняты рускі флаг.

У 1914 годзе экспедыцыя апісала паўднёвае ўзбярэжжа Паўночнай Зямлі, што дазволіла ўстанавіць абрысы праліва паміж ёю і Таймырам, які пазней атрымаў назву праліва Барыса Вількіцкага. Экспедыцыя адкрыла таксама астравы Малы Таймыр і Старакадомскага.

Летам 1915 года караблі рушылі на захад, да вострава Дыксан, і 25 жніўня прыбылі ў Архангельск, дзе іх экіпажы былі ўрачыста сустрэты.

Другі раз у гісторыі чалавецтва (пасля шведа Нордэншэльда) быў пройдзены наскрозь Вялікі Паўночны марскі шлях.

Судны экспедыцыі пераадолелі цяжкасці лядовага плавання і намецілі скразную трасу для будучых зносін цераз арктычныя моры. Удзельнікі экспедыцыі апісалі ўзбярэжжа Сібіры паміж мысамі Дзежнева і Чэлюскіна.

Вынік экспедыцыі быў расцэнены як выдатнае дасягненне. Усе ніжнія чыны былі ўзнагароджаны медалямі, афіцэры — ордэнамі. У гонар экспедыцыі быў заснаваны асобы нагрудны знак. Б. Вількіцкаму былі прысуджаны ганаровыя залатыя медалі Рускага і Французскага геаграфічных таварystваў і Шведскага таварыства антрапалогіі і этнаграфіі.

Але ў гэты час ішла першая сусветная вайна. Яна пе~ рашкодзіла ацаніць па заслугах дасягненні айчынных гідрографаў. Матросы і афіцэры (і ў тым ліку кіраўнік экспедыцыі) пайшлі ў дзеючы флот.

На Смаленскіх могілках у Ленінградзе нам удалося знайсці пляцоўку з пахаваннямі сям'і Вількіцкіх — Андрэя Іпалітавіча і аднаго сына, які памёр у юнацтве. Трэцяй магілы там няма. Барыс Вількіцкі пахаваны ў Бруселі ў 1961 годзе. Ён доўгія гады працаваў у Бельгійскім Конга (цяпер рэспубліка Заір).

Імёны бацькі і сына А. і Б. Вількіцкіх трывала ўвайшлі ў гісторыю айчынных даследаванняў Арктыкі.

## РУСЕЛЬ

Ішла руска-японская вайна 1904-1905 гадоў, якая, паводле слоў У. І. Леніна, адыграла «вялікую рэвалюцыйную ролю». Ахвярамі бяздарнасці царскіх генералаў і закаснеласці ваеннай

дактрыны царызму сталі дзе сяткі тысяч салдат і матросаў, што трапілі ў палон у Японію.

Замежны аддзел РСДРП разгарнуў сярод іх рэвалюцыйную прапаганду і даручыў Бонч-Бруевічу арганізаваць забеспячэнне палонных партыйнай літаратурай.

Прыехаўшы для прапаганды сярод палонных у Японію, рэвалюцыйны эмігрант урач Мікалай Судзілоўскі (псеўданім Русель) атрымліваў літаратуру і распаўсюджваў яе, выступаў перад салдатамі і матросамі на мітынгах. Бонч-Бруевіч успамінаў: «Уладзімір Ільіч, вядома, ведаў падрабязна ўсё, што робім мы, яго бліжэйшыя памочнікі, і ён цалкам адабраў і гэтую нашу літаратурную дзейнасць сярод рускіх ваеннапалонных».

У. І. Ленін са швейцарскай эміграцыі заклікаў рускіх салдат узняцца на ўзброеную барацьбу супраць самадзяржаўя. Можна меркаваць, што Судзілоўскі не выпадкова пераконваў ваеннапалонных выступіць са зброяй супраць царызму, як толькі тыя вернуцца на радзіму.

Рэвалюцыйны парыў распрапагандаваных салдат і матросаў дасягнуў мацерыка. Пасля вяртання дамоў яны неслі ў родныя мясціны дух пратэсту. Ва Уладзівастоку ў студзені 1906 года была праведзена імі рэвалюцыйная дэманстрацыя, удзельнікаў якой расстралялі казакі. Будучы савецкі пісьменнік, які супрацоўнічаў з Судзілоўскім, Г. Новікаў-Даурскі ўспамінаў, што «салдаты і матросы вярталіся ў родныя мясціны больш свядомымі, чым раней. Большая частка іх крытычна ставілася да існуючага ладу. Многія знайшлі сваё месца ў радах барацьбітоў за звяржэнне самадзяржаўя».

Жыццё Судзілоўскага нагадвае раман. Яно незвычайнае нават для рэвалюцыянера, а прыгод, выпаўшых на яго долю, хапіла б на некалькі чалавек.

Арганізатар падпольных гурткоў у Расіі, удзельнік «хаджэння ў народ», адзін з пачынальнікаў румынскага сацыялістычнага руху, ён нарадзіўся 3 снежня 1850 года ў Магілёве ў сям'і дробнага чыноўніка з радавітых беларускіх дваран. У час вучобы ў Кіеўскім універсітэце ён стварыў падпольны гурток, затым вёў прапаганду сярод сялян на Украіне і ў Расіі, а калі яго высачыла паліцыя, змог уцячы за мяжу.

У Лондане Судзілоўскі сустракаўся з К. Марксам, затым пераехаў у Румынію, каб перапраўляць рэвалюцыйныя газеты і брашуры цераз Прут у Расію. Тут ён завяршыў медыцынскую адукацыю і змяніў прозвішча на Русель (Рускі), каб пазбегнуць арышту.

Разам з балгарскім рэвалюцыянерам Хрыста Боцевым ён узначаліў гурток рэвалюцыянераў, вывучаў працы К. Маркса, сацыялістаў-утапістаў. Удзельнікі гераічнага паходу за Дунай на чале з Боцевым клікалі яго з сабой, але Судзі-

лоўскі адмовіўся, прадбачачы няўдалы вынік экспедыцыі.

Неўзабаве ўрач узначаліў у Ясах новы сацыялістычны гурток, выдаў адну з першых марксісцкіх брашур у Румыніі. Румынскія ўлады выслалі яго з краіны, скарыстаўшы тое, што ён рыхтаваў банкет у гадавіну Парыжскай камуны, якая супала з забойствам народнікамі Аляксандра II. Пасля прыгод Судзілоўскі пераехаў у балгарскі горад Плоўдзіў. Ён заняўся ўрачэбнай практыкай і падтрымліваў сувязі са сваімі сябрамі па жэнеўскай эміграцыі Г. Пляханавым і іншымі, якія на той час аформілі групу «Вызваленне працы» — першую марксісцкую групу рускіх рэвалюцыянераў.

Аўстрафільскія колы мясцовай буржуазіі пачалі ганенне на расійскага ўрача-інтэрнацыяналіста. Судзілоўскі вымушаны быў пакінуць Балгарыю і пераехаць у Сан-Францыска, Тут ён стаў папулярным урачом. Судзілоўскі выкрыў хабарніцтва і маральнае злачынства мясцовага праваслаўнага епіскапа Уладзіміра. Епіскап публічна пракляў рэвалюцыянера з царкоўнага амбону і заклікаў веруючых не лячыцца ў яго.

Узнік скандал: Судзілоўскі падаў у суд на епіскапа, таму што той нанёс яму царкоўнай анафемай матэрыяльны ўрон. Обер-пракурор свяцейшага Сінода Пабеданосцаў вымушаны быў пісьмова прасіць урача —у мінулым студэнта юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта, у якім Пабеданосцаў быў тады прафесарам,— забраць іск, заклікаючы да патрыятычных пачуццяў Судзілоўскага.

Урач згадзіўся, паколькі публічны працэс нанёс бы шкоду рускім, што жылі ў ЗША. Духоўнага пастыра адазвалі ў Расію, але, насуперак абяцанню Пабеданосцава, не пакаралі, а наадварот, узнагародзілі,

Затым урач пераехаў на Гавайскія астравы, якія славіліся сваім добрым кліматам. Ён пакінуў адно з лепшых у рускай літаратуры апісанняў гэтага архіпелага. Калі 3LL1A захапілі астравы і аб'явілі іх сваёй тэрыторыяй, Судзілоўскі ўключыўся ў барацьбу мясцовага насельніцтва — палінезійцаў «канакаў» за свае правы ў складзе партыі незалежных. У час выбараў Судзілоўскага выбралі сенатарам тэрыторыі, а затым прэзідэнтам сената. Ён выступаў з законапраектамі, накіраванымі на паляпшэнне быту і аховы здароўя карэнных жыхароў. Ён меркаваў рэарганізаваць медыцынскую службу на тэрыторыі Гаваяў, скарыстоўваючы свой рускI вопыт работы фельчарам у вёсцы.

Пасля пераезду ў Японію Судзілоўскі выдаў некалькі брашур, у якіх заклікаў да ўстанаўлення дэмакратычнага ладу ў Расіі. Ён перапісваўся з А. Горкім, У. Караленкам, кітайскім рэвалюцыйным правадыром Сунь Ятсенам, памагаў здабываць узрыўчатку для кітайскіх рэвалю-

цыянераў, падтрымліваў цесную сувязь з японскімі сацыялістамі.

Па патрабаванню царскіх улад адміністрацыя ЗША пазбавіла ўрача амерыканскага грамадзянства, і ён вымушаны быў пераехаць на Філіпіны. У сваіх артыкулах, якія Судзілоўскі змяшчаў у далёкаўсходніх газетах, ён апісваў прыроду і жыццё на востраве, рэзка асуджаў бясчынствы амерыканскіх каланізатараў.

Затым Судзілоўскі вярнуўся ў Японію, адкуль пераехаў у кітайскі горад Цяньцзінь. Ён напісаў зварот аб неабходнасці; падтрымаць Савецкі ўрад «левымі ўсяго свету», арганізаваў Камітэт дапамогі галадаючым Паволжа. Памёр Мікалай Судзілоўскі ў Кітаі 30 красавіка 1930 года.

## БЕЛАВАЛОСЫ КОНСУЛ

У Вільнюсе, на праваслаўных могілках Рось, ёсць сціплы надмагільны камень з наДпісам «Восіп Антонавіч Гашкевіч (1814-1872)». Тут ляжыць прах першага рускага консула ў далёкай Японіі, які памёр у маёнтку Малі Ашмянскага павета Віленскай губерні.

А нарадзіўся ён у Мінскай губерні ў сям'і небагатага свяшчэнніка. Пасля навучання ў Мінскай духоўнай семінарыі і Пецярбургскай духоўнай акадэміі маладога чалавека, які праявіў здольнасці да замежных моў, накіравалі ў Пекін на дзесяць гадоў у рускую духоўную місію.

Тут В. Гашкевіч авалодаў кітайскай мовай, паклаў пачатак астранамічным і метэаралагічным назіранням у Місіі, сабраў калекцыю насякомых. Пасля вяртання ў Пецярбург у 1850 годзе ён выдаў артыкулы пра гаспадарчую дзейнасць кітайцаў. У адным з іх В. Гашкевіч апісаў страшныя карціны голаду і галечы працавітага кітайскага народа.

Як знаўцу ўсходніх моў, В. Гашкевіча ўвялі ў састаў рускай місіі, накіраванай у Японію. Ён прыняў актыўны ўдзел у заключэнні першага руска-японскага дагавора. Плаванне місіі ў Японію бліскуча апісана рускім пісьменнікам І. Ганчаровым, які ў сваіх нарысах «Фрэгат «Палада» неаднаразова ўпамінаў пра сумесныя экскурсіі з В. Гашкевічам.

У час знаходжання рускіх маракоў у горадзе Хэда з В. Гашкевічам уступіў у кантакт японец Тацібана Касай, былы воін і свяшчэннік. Рускія маракі схавалі яго ад японскіх улад, якія забаранялі сваім падданым сувязі з іншаземцамі. Калі прыйшоў час адплыцця рускіх маракоў з Японіі, Тацібана Касая схавалі ў пустую труну і прынеслі на брыг, на борце якога маракі пакідалі краіну.

Брыг захапілі англічане (у той час ішла Крымская вайна). Маракоў, а таксама Гашкевіча і японскага ўцекача адправілі ў Ганконг, а затым у Англію, у плывучую турму. Пасля падпісання міру В. Гашкевіч са сваім японскім

спадарожнікам вярнуўся ў Расію. З дапамогай Тацібана ён склаў японска-рускі слоўнік, удастоены Дзямідаўскай прэміі.

Рускі ўрад вырашыў адкрыць сваё консульства ў Японіі ў горадзе Хакадатэ. Ён забяспечыў назначанага консулам В. Гашкевіча інструкцыяй, у якой прапаноўваў прытрымлівацца неўмяшання ва ўнутраныя справы краіны: «Мы жадаем умацавання і распаўсюджання нашага гандлю з Японіяй. Усякія іншыя віды, усякая думка аб умяшанні ва ўнутраныя яе справы чужыя для нашай палітыкі. Старайцеся пераканаць у тым японскі ўрад і назірайце, каб непрыязныя ўнушэнні не далі яму скажонага паняцця пра нашы намеры».

В. Гашкевіч прытрымліваўся гэтай інструкцыі з поспехам. У саставе консульства былІ: марскІ афіцэр, які павінен быў «паведаміць японцам карысныя звесткі ў астраноміі, мараходстве і па мастацтву караблебудавання і карабельнай механіцы», і ўрач, які адкрыў бальніцу і вучыў пры ёй японцаў медыцыне. Свяшчэннік місіі заснаваў рускую школу і выдаў першую рускую азбуку для маленькіх японцаў.

В. Гашкевіч падарыў японцам маячны ліхтар і барометр, навучыў краўца Кідзу Какіці фатаграфаваць і падарыў яму свой касцюм, каб той навучыўся шыць еўрапейскае адзенне.

Консул з поспехам наладжваў добрасуседскія адносіны паміж рускімі і японцамі. Калі ён даведаўся, што Англія збіраецца дабівацца арэнды вострава Цусіма ў якасці ваенна-марской базы, ён папярэдзіў японцаў, і намеры Англіі былі сарваны.

Калі ў Хакадатэ распаўсюдзіліся чуткі аб аб'яўленні вайны заморскімі дзяржавам! і ўяўным выступленне рускіх, многія гараджане ў страху ўцяклі з горада.

«Белавалосы консул» (як называлі В. Гашкевіча японцы), нягледзячы на небяспеку, хадзіў па вуліцах і супакойваў японцаў: «Не хвалюйцеся, вайны не будзе».

Гшоў час. У 1865 годзе В. Гашкевіч вярнуўся на радзіму. Ён пасяліўся ў маёнтку Малі і працягваў тут займацца японскай мовай. Пасмяротна выйшла яго кніга «Пра карэнні японскай мовы».

Імем нашага земляка былі названы апісаныя ім невядомыя віды насякомых (ён пасылаў часта свае калекцыі ў заалагічны музей Акадэміі навук у Пецярбург), а таксама заліў Часанман у Карэі (блізка ад руска-карэйскай граніцы). Яго ўклад у справу збліжэння народаў Расіі і Японіі цяжка пераацаніць.

## У ГАРАХ ДЖУГДЖУРА

У жніўні 1903 года лета на беразе Ахоцкага мора было халоднае. Яшчэ халадней было на прыбярэжным крутым хрыбце Аёмакіт, на які

ўзбіраўся невялікі атрад з трох чалавек, удзельнікаў экспедыцыі, што вывучала быт якутаў і эвенкаў Прыаянскага краю, прылеглага да Ахоцкага мора. Кіраўнік атрада Эдуард Пякарскі запісваў на прывале ў дзённіку: «Сцежка — суцэльны камень, востры, рэжа ногі, для якіх слабай аховай служаць надзетыя сёння тарбасы... Вось мы на ўзроўні туману, які рассцілаецца па вяршынях суседніх гор. Месяц слаба свеціць скрозь туман. Пад намі цэлае мора густога туману, хвалюемага ветрам. Дзе-нідзе на хвіліну агаляюцца вяршыні больш нізкіх гор і зноў патанаюць у моры. Карціна цудоўная. Паступова падымаемся да самай вяршыні. Сцежка вузкая,— толькі і глядзі, конь аступіцца і паляціць уніз. Я ступаю вельмі асцярожна, баючыся сарвацца са сцежкі».

У далёкі край Э. ГІякарскі трапіў не па сваёй волі: яго саслалі ў Якуцію за ўдзел у народавольчым руху.

Эдуард Пякарскі нарадзіўся 13 кастрычніка 1858 года ў фальварку Пятровічы недалёка ад мястэчка Смілавічы (цяпер Чэрвеньскі раён Мінскай вобласці). Маці будучага якутазнаўцы памерла рана. Хлопчык спачатку выхоўваўся ў сям'і беларускага селяніна, затым жыў у Мінску ў цёткі і ў палескім маёнтку Барбараў у двая раднага дзеда. Жылося на правах нахлебніка нялёгка. У мазырскай гімназіі, куды Эдуард паступіў, ён зарабляў на жыццё рэпетытарствам. Пазней пераехаў у Таганрог. Тут ён звязаў сваё жыццё з рэвалюцыйна настроенай моладдзю, якую ўзначальваў студэнт Ісаак Паўлоўскі. Ён кватараваў у мешчаніна Паўла Чэхава, бацькі будучага пісьменніка.

Юнакі чыталі творы В. Бялінскага, А. Герцэна, М. Чарнышэўскага, М. Дабралюбава, Д. Пісарава.

Не пакінуў рэвалюцыйнай дзейнасці Э. Пякарскі і ў Чарнігаве, куды пераехаў вучыцца. Тут ён уступіў у гурток В. Варзара. Э. Пякарскі вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод шаўцоў і гімназістаў. Восенню 1877 года ён паступіў у Харкаўскі ветэрынарны інстытут, дзе ўзначаліў студэнцкія хваляванні. Зімой 1877 года пачаліся арышты, Э. Пякарскі, ратуючыся ад праследаванняў паліцыі, пераехаў у Тамбоўскую губерню.

Праз некалькі месяцаў у Княжа-Багародзіцкае валаснос ўпраўленне Тамбоўскага павета прыехаў прымаць справы ў п'яніцы пісара Цапенкі новы пісар Іван Кірылавіч Пякарскі. Так стаў называць сябе былы харкаўскі студэнт, каб не вылучацца сваім імем сярод рускіх сялян.

Э. Пякарскі зразумеў, што не заваюе давер'я сялян, калі не будзе ім карысным. І дзень і ноч ён сядзеў над паперамі да тае пары, пакуль не асвоіў справаводства. Ні адной паперы ён не затрымліваў, усе даведкі і пашпарты выдаваў мужыкам своечасова.

З канца 1878 года наш зямляк быў членам таварыства «Зямля і воля». На Тамбоўшчыне ў гэты час было нямала такіх, як ён, «валасных пісараў» і «фельчараў» — рэвалюцыянераў. Аднак паліцыя напала на след падпольшчыкаў. Калі ў «Івана Кірылавіча» запатрабавалі пашпарт, ён вымушаны быў схавацца. Яго арыштавалі ў Маскве ў снежні 1879 года. Праз 13 месяцаў Пякарскага прыгаварылі да ссылкі ў далёкую Якуцію. У лістападзе 1881 года яго прывезлі ў 1-шы Ігідзейскі наслег Батурускага ўлуса за 230 вёрст на паўночны ўсход ад Якуцка. Тут яму наканавана было правесці доўгія гады ссылкі.

Э. Пякарскага змясцілі ў юрце гаспадара міждворнай станцыі. Мясцовасць была бедная, прадукты дарагія. «А сродкаў для жыцця няма...— пісаў Э. Пякарскі бацьку 22 лютага 1883 года.— І калі б не якуты, я прапаў бы з голаду». Давялося вучыцца хлебаробскай справе, разводзіць жывёлу, будаваць юрту па якуцкаму ўзору, запасацца на зіму палівам і лёдам для вытоплівання вады.

Э. Пякарскі памагаў якутам складаць афіцыйныя паперы (гэтаму ён навучыўся на Тамбоўшчыне), весці судовыя працэсы, заступаўся за іх перад прыезджым начальствам. Каб размаўляць з якутамі, Э. Пякарскаму давялося вывучыць іх мову, запісваць якуцкія словы з рускім перакладам. Працаваць пры дрэнным асвятленні было нялёгка, не хапала паперы, пад рукой не было дапаможнікаў, слоўнікаў,

У газеце «Неделя» за 1885 год ён прачытаў паведамленне, быццам бы ў якуцкай мове налічваецца 3 тысячы слоў. Да 1887 года даследчык сабраў ужо сем тысяч якуцкіх слоў, праз 11 гадоў — 20 тысяч, а к 1930 году — 25 тысяч слоў.

Слоўнікам Э. Пякарскага зацікавіўся Усходне-Сібірскі аддзел Геаграфічнага таварыства. Энтузіяст развіцця Сібіры золатапрамысловец А. Сібіракоў прапанаваў аддзелу даць грошай на друкаванне слоўніка. У 1899 годзе ў Якуцку, куды да пачатку наступнага года даследчык змог перасяліцца, выйшаў першы выпуск слоўніка Э. Пякарскага.

Вялікі вопыт Э. Пякарскага ў вывучэнні быту якутаў прымусіў кіраўнікоў экспедыцыі ў Прыаянскі край звярнуцца да вучонага з просьбай рабіць падворны запіс эвенкаў у гэтым рэгіёне, запісваць звесткі аб іх быце. Наш зямляк даў згоду і адплыў з Якуцка на параходзе 11 чэрвеня 1903 года. Праз два тыдні плавания па Алдану і Маі ён прыбыў у маленькае, з шасці двароў, сяло Нелькан. Адсюль адправіўся да Ахоцкага мора. Давялося пераваліць цераз хрыбет Джугджур.

Нарэшце 20 ліпеня на бераг ракі Алдомы сталі з'язджацца на аленях жыхары тайгі. Ветлівасць Э. Пякарскага прыцягвала да яго лю-

дзей. Даследчык частаваў эвенкаў тытунём і чаем, узамен прасіў для музея розныя рэчы з іх ужытку.

Эвенкі танцавалі перад даследчыкам, расказвалі пра аленегадоўлю, паляванне, рыбную лоўлю. Зрабіўшы неабходныя запісы і сабраўшы матэрыялы, Э. Пякарскі вярнуўся назад.

У 1905 годзе па хадайніцтву Акадэміі навук яму дазволілі вярнуцца ў еўрапейскую частку краіны. Яго запрасілі ў Пецярбург працягваць працу над слоўнікам. З 1907 па 1930 год выходзіла акадэмічнае выданне «Словаря якутского языка» Э. Пякарскага з багатымі паралелямі з роднасных моў і падрабязным тлумачэннем старых слоў і з'яў быту. У 1907-1918 гадах пад рэдакцыяй вучонага выходзяць тры тамы «Образцов народной литературы якутов» на якуцкай мове.

За «Словарь» і «Образцы литературы» Э. Пякарскага ўзнагародзілі залатымі медалямі Акадэміі навук і Рускага геаграфічнага таварыства.

Пасля рэвалюцыі вучоны працягваў работу ў камісіі па вывучэнню Якуцкай АССР.

Шматгадовая праца над асноўнай часткай слоўніка падыходзіла да канца. 29 лістапада 1926 года Э. Пякарскі пісаў этнографу В. Іахельсону: «29 кастрычніка закончыў «бясконцы слоўнік» і падпісаў: «канец». Напярэдадні гэтага, у ліпені 1926 года, ён з'ездзіў нарэшце на роднае Палессе. Магчыма, спатканне з роднымі мясцінамі выклікала ў 68-гадовага вучонага прыліў сіл. Магчыма, ён упершыню за 45 гадоў дазволіў сабе адпачыць у блізкіх сэрцу мясцінах перад завяршэннем працы свайго жыцця.

А за 45 гадоў было зроблена шмат. Паводле слоў вучоных, «быў створаны не проста дапаможнік па якуцкай мове (...), а сапраўдная энцыклапедыя ўсяго ўкладу жыцця якуцкага народа, яго матэрыяльнай і духоўнай культуры».

Грамадскасць краіны адзначыла заканчэнне складання «Словаря». У адрас юбіляра прыходзілі сотні віншавальных тэлеграм.

Па рашэнню ЦВК і Савета Народных Камісараў Якуцкай АССР імем Э. Пякарскага назвалі школу ў Ігідзейцах — месцы яго першапачатковай ссылкі. Вучонага выбралі ганаровым членам Якуцкага даследчага таварыства «Саха-Кескіле» і Усходне-Сібірскага аддзела Рускага геаграфічнага таварыства, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук СССР, пазней яе ганаровым членам.

Вучоны працягваў работу па друкаванню апошніх выпускаў слоўніка. Ужо пасля выхаду слоўніка Э, Пякарскі сабраў матэрыялы для дадатковага тома,

Памёр вучоны 29 чэрвеня 1934 года. Урад Якуцкай АССР увекавечыў яго памяць дзвюма стыпендыямі імя Э. Пякарскага для вучняў з рэспублікі.

Галоўную працу Э. Пякарскага — «Словарь якутского языка» па заслугах ацанілі ў Якуціі. Заснавальнік пісьменнай якуцкай літаратуры А. Кулакоўскі пісаў вучонаму 18 лістапада 1912 года: «У нас не было літаратуры, а ваш слоўнік павінен паслужыць краевугольным каменем для яе стварэння. (...) Вы сапраўды заслугоўваеце назвы «бацькі якуцкай літаратуры». Без вас не знайшлося б асобы, у якой хапіла б дзёрзкасці зрабіць такую каласальную працу, як ваш слоўнік».

Навуковы свет высока ацаніў «Словарь». Даследчык цюркскіх моў акадэмік В. Радлаў яшчэ наконт першага выдання слоўніка пісаў: «Я не ведаю ніводнай мовы, не маючай пісьменнасці, якая можа параўнацца па паўнаце сваёй і стараннасці апрацоўкі з гэтым сапраўдным скарбам якуцкага слоўніка, ды і для многіх літаратурных моў падобны слоўнік, на жаль, застаецца яшчэ надоўга жадаемай недаступнасцю».

Першую частку «Словаря» Э. Пякарскага пераклалі на турэцкую мову і выдалі ў 1945 годзе ў Стамбуле, а ўвесь «Словарь» перавыдалі ў нашай краіне ў 1959 годзе. Гэта кніга стала настольнай для ўсіх тых, хто вывучае культуру і працуе ў асяроддзі якуцкага народа.

## УСХОДАЗНАВЕЦ З НАВАГРУДЧЫНЫ

У 1832 годзе для ўдасканальвання ва ўсходніх мовах на Блізкі Усход адправіўся Антоній Мухлінскі (1808-1877). Нарадзіўся ён у маёнтку Саснова пад Навагрудкам, вучыўся ў Маладзечна ў павятовай дваранскай школе. Затым ён займаўся на факультэце маральна-палітычных навук (г. зн. юрыдычным), а затым на факультэце літаратуры Віленскага універсітэта. У 1828 годзе А. Мухлінскі паехаў у Пецярбург для падрыхтоўкі да пасады прафесара ўсходніх моў. Ён займаўся ў вучэбным аддзяленні ўсходніх моў пры міністэрстве замежных спраў. А. Мухлінскі не забываў родных мясцін. Яго першай друкаванай работай быў артыкул «Святы, забавы, забабоны і абрады простага народа ў Навагрудскім павеце Літоўска-Гродзенскай губерні».

У 1832 годзе А. Мухлінскі паехаў у Стамбул як стыпендыят міністэрства асветы.

Ён захапляўся прыгажосцю праліва, над якім узвышалася турэцкая сталіца: «Што можа ісці ў параўнанне з Басфорам? Цудоўны палоннік Еўропы і Азіі Басфор! Як апісаць тваго чароўную прыгажосць! Як намаляваць твае воды, прыгажэй за якія, нягледзячы на чалавечыя хітрыкі, нічога не бачу; твае цудоўныя берагі, усеяныя паселішчамі і адзінокімі вёскамі...»

А. Мухлінскі ў Стамбуле браў урокі ў турэцкага пісьменніка Хаджы Айні і арабскага паэта Абула Філіпаса, вывучаў навагрэчаскую і армянскую мовы.

У красавіку 1834 года А. Мухлінскі адправіўся ў Ізмір (Смірну), праехаў цераз Анатопію ў Левант (як тады называл! Сірыю, Ліван і Палесціну). У Яфе ён гасціў у рускага віцэ-консула А. Шпіцнагеля, свайго таварыша па Віленскаму універсітэту. Час быў неспакойны: сірыйскі паша ваяваў супраць цэнтральнай улады, і еўрапейцам падарожнічаць па краіне было небяспечна. Таму А. Мухлінскі адправіўся ў Егіпет.

З Александрыі А. Мухлінскі паехаў у Каір і Медынет-Фаюм, наведаў помнікі старажытнаегіпецкай архітэктуры ў Лусары і Фівах.

З Егіпта ён вярнуўся ў Стамбул, а адтуль у Расію.

У час адсутнасці А. Мухлінскага памерлі яго бацька і дзядзька. Для ўпарадкавання сваіх спраў вучоны з'ездзіў у свой маёнтак Ваўковічы на беразе возера Свіцязь.

З 1835 па 1866 год А. Мухлінскі выкладаў усходнія мовы ў Пецярбургскім універсітэце. Апошнія гады жыцця правёў у Варшаве.

У 1868 годзе вучоны зноў наведаў Палесціну, а на наступны год быў ганаровым госцем на адкрыцці Суэцкага канала.

А. Мухлінскі быў у Беларусі адным з ініцыятараў вывучэння культуры ўсходніх нацыянальных меншасцей. Ён першым даследаваў літаратуру беларускіх татараў, напісаную на беларускай мове арабскім алфавітам — так званыя «Кітабы».

## З М Е С Т



Printed in USSR
Валентин Петрович ГРИЦКЕВИЧ
НАШИ ИЗВЕСТНЫЕ ЗЕМЛЯКИ
На белорусском языке
Минск, 1984
Рэдактар Д. Ц. ЧАРКАСАВА
Мастак У. М. БАТУРА
Тэхнічны рэдактар С. І. СТАРАВЕРАВА
Карэктар І. К. КАЗЛОВА
Здадзена ў набор 20.03.84. Падпісана да друку 28.05.84, Фармат 70Х108'/32. Папера для глыбокага друку. Гарнітура часопісная рубленая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,80. Улік.-выд. арк. 2,9. Фіз. друк. арк. 2,0. Зак. 878. Цана 20 к.
Рэдакцыя газеты «Голас Радзімы», Мінск, Ленінсві праспект, 44 Ордэна Працоўнага Чырізонага Сцяга друкарня выдавецтиа ЦК КП Беларусь Мінск, Ленінскі праспект, 79.